## Прыгажуня ў сонным лесе

Жылі сабе кароль з каралевай, і не было ў іх дзяцей. Так яны сумавалі праз гэта, так сумавалі, што і сказаць няможна. Ужо і ўсе святыя крыніцы на свеце пааб'ездзілі, і маліліся, і бажыліся, і пацеры ўвесь час казалі – чаго толькі не рабілі, а ўсё дарма. Але нарэшце каралева такі зацяжарыла і нарадзіла дачку. Хрэсьбіны справілі пышныя. За хросных маці да маленькай прынцэсы паклікалі ўсіх чараўніц, якіх толькі ўдалося знайсці ў каралеўстве (а іх аказалася сем). Бацькам хацелася, каб кожная паводле звычаю, які тады быў у чараўніц, надзяліла іх дачку якім-небудзь дарам і каб прынцэса, такім чынам, мела ўсе найлепшыя якасці, якія сабе можна ўявіць.

Пасля хрэсьбінаў госці ўсёй кампаніяй вярнуліся ў каралеўскі палац, і там чараўніцам зладзілі вялікі банкет. Перад кожнай паклалі раскошны футарал з чыстага золата, а ў ім ляжалі залатыя лыжка, відэлец і нож, аздобленыя дыяментамі і рубінамі. Калі ўсе сядалі за стол, у залу раптам увайшла старая варажбітка, якую ніхто не запрашаў, бо яна больш за пяцьдзесят гадоў не выходзіла са сваёй вежы і ўсе лічылі, што яна памерла ці ляжыць там зачараваная.

Кароль загадаў прынесці кувэрт і ёй, але залатога футарала больш не знайшлося: іх зрабілі толькі сем – столькі, колькі было запрошана чараўніц. Варажбітка палічыла, што яе зняважылі, і пачала бурчаць скрозь зубы розныя праклёны. Маладая чараўніца, якая сядзела побач, пачула гэтае бурчанне і зразумела, што старая можа наклікаць на прынцэсу якое-небудзь ліха. І таму, калі ўсе ўсталі ад стала, яна адразу адышла ўбок і схавалася за фіранкай, каб гаварыць апошняй і мець такім чынам магчымасць крыху ўхіліць ліха, якое зробіць старая.

Тым часам чараўніцы пачалі надзяляць прынцэсу дарамі. Сама маладая паабяцала, што прынцэса будзе найпрыгажэйшая дзяўчына ў свеце; другая – што розум у яе будзе светлы, як у анёлка; трэцяя – што яна будзе майстрыха на ўсе рукі; чацвёртая – што яна будзе цудоўна танцаваць; пятая – што голас у яе будзе, як у салавейкі; а шостая – што яна будзе дзівосна граць на сама розных інструментах. Калі ж настала чарга старой варажбіткі, яна, трасучы галавой – не так ад старасці, як ад злосці, – сказала, што прынцэса ўколе руку верацяном і памрэ.

Ад такога страшнага выраку госці аж скалануліся, і ніхто не здолеў стрымаць горкіх слёз. У гэтую хвіліну з-за фіранкі выйшла маладая чараўніца і гучна прамовіла:

– Супакойцеся, кароль з каралеваю! Вашая дачка не памрэ. Праўда, я не маю такой улады, каб зусім зняць чары старой

варажбіткі, і прынцэса ўсё ж уколе руку верацяном. Але яна не памрэ, а толькі засне глыбокім сном, які будзе доўжыцца сто гадоў. А потым прыйдзе малады каралевіч і разбудзіць яе.

І ўсё ж, нягледзячы на гэтае абяцанне, кароль вырашыў зрабіць усё, каб запабегчы бяды, наканаванай старой варажбіткай. Ён выдаў загад, які пад пагрозаю смерці забараняў усім і кожнаму прасці верацяном ці нават проста трымаць верацёны дома.

Гадоў праз пятнаццаць ці можа шаснаццаць кароль з каралевай паехалі ў адзін свой летні маёнтак; і аднойчы прынцэса, бегаючы там па палацы – з пакоя ў пакой, з паверха на паверх, – залезла аж пад самы дах адной вежкі, дзе ў невялічкай каморцы ўбачыла старую бабульку, якая прала на верацяно. Гэтая бабулька і чуць не чула, што кароль наклаў на верацёны строгую забарону.

– Бабуля, што вы тут робіце? – спытала прынцэса.

– Праду, маё дзіцятка, – адказала бабуля, якая не ведала, што перад ёю прынцэса.

– Ах, як гэта цудоўна! – сказала прынцэса. – А як гэта вы робіце? Дайце, я паспрабую, можа і ў мяне выйдзе.

Узяла прынцэса ручайку – а дзяўчына яна была няўрымслівая, дый гарэзніца добрая, а тут яшчэ над ёй панавала воля чараўніц, і таму – ледзь толькі яна гэта зрабіла, як адразу ўкалола руку верацяном і ў той самы момант самлела.

Бабуля вельмі спалохалася, пачала крычаць, клікаць на паратунак. На крык з усіх бакоў збегліся людзі – і ў твар вадой прынцэсе пырскаюць, і гарсэт распускаюць, і па далонях пляскаюць, і скроні вугорскім воцатам труць, ды ніяк да памяці яна не прыходзіць.

Тады кароль, які таксама прыйшоў у вежу на крык, успомніў пра наканаванае чараўніцамі ды падумаў, што, калі ўжо яны так сказалі, дык усё роўна ад лёсу нікуды не дзенешся. І загадаў ён, каб прынцэсу паклалі ў найлепшым пакоі ў палацы на ложку, вышываным золатам і серабром.

Прынцэса ляжала, чыста анёльчык, такая яна была прыгожая; непрытомнасць зусім не змяніла яе свежага тварыка: шчочкі ў яе былі пунсовыя, вусны – нібыта з каралаў, і толькі вочкі былі заплюшчаныя. Але па яе роўным, ціхім дыханні можна было зразумець, што яна не памерла. Кароль загадаў, каб нішто не турбавала прынцэсінага сну, пакуль ёй не прыйдзе час прачнуцца.

Калі здарылася гэтая бяда, добрая чараўніца, якая ўратавала прынцэсе жыццё, замяніўшы смерць стогадовым сном, была ў некаторым царстве, у далёкім гаспадарстве, за цэлы тузін тысяч вёрст. Але вестка пра няшчасце была ёй перададзеная ў адно імгненне, і зрабіў гэта карлік, у якога былі сямімільныя боты (а гэта былі такія боты, у якіх адным крокам можна было прайсці ажно

сем міль). Чараўніца адразу рушыла ў дарогу і ўжо праз гадзіну пад'язджала да палаца на вогненнай калясніцы, запрэжанай цмокамі.

Кароль выйшаў яе сустракаць, падаў руку і дапамог сысці з калясніцы. Чараўніца ўхваліла каралёвыя загады, але як бо была вельмі прадбачлівая, падумала, што прынцэса засмуціцца, калі прачнецца ў старым палацы зусім адна. І вось што яна зрабіла.

Яна дакранулася сваёй чарадзейнаю палачкай да ўсяго, што было ў палацы (апроч караля з каралевай): да гувернантак, фрэйлін, пакаёвак, кавалераў, служак, дварэцкіх, кухараў, кухарчукоў, брамнікаў, пажоў, лёкаяў. Яна дакранулася таксама да коней у стайнях і да канюшнікаў, да вартавых сабак на птушыным двары і да маленькага Пуфіка, прынцэсінага сабачкі, які ляжаў каля ложка. І ледзь яна да іх дакранулася, як усе адразу пазасыналі, каб прачнуцца разам са сваёй гаспадыняй і быць гатовымі ёй служыць, калі ў тым будзе патрэба.

Нават ражны ў печы разам з нанізанымі на іх курапаткамі ды фазанамі – і тыя заснулі, і агонь – таксама. Усё гэта адбылося ў адну хвіліну, бо чараўніцам не трэба шмат часу, каб зрабіць сваю справу.

Тады кароль з каралевай пацалавалі сваю дарагую дачушку, што спала нязбудным сном, і, пакідаючы палац, загадалі, каб ніхто да яго блізка не падыходзіў. Ды гэтага й не трэба было загадваць, бо ўжо праз чвэртку гадзіны парк вакол палаца зарос такім густым хмызняком, калючымі цернямі, ды вялікімі і маленькімі дрэвамі, што праз іх не змаглі б прадзерціся ні звер, ні чалавек. Палац зусім схаваўся за гэтым зараснікам, і цяпер можна было ўбачыць адны яго вежы, дый тое здалёк. Ніхто не сумняваўся, што і тут чараўніца паклапацілася, каб прынцэса спала спакойна і каб яе не турбавалі ніякія цікуны.

Праз сто гадоў давялося паляваць у тых краях сыну караля, што кіраваў тады каралеўствам (а паходзіў ён ужо не з таго роду, з якога была прынцэса). І вось, калі прынц убачыў па-над лясною гушчэчай нейкія незнаёмыя вежы, ён пачаў пытацца ў людзей: што гэта такое? Кожны адказваў па-рознаму: адны казалі, што гэта замак, у якім жывуць здані, другія – што сюды на шабас з усяго наваколля збіраюцца ведзьмары і вядзьмаркі. Але большасць былі ўпэўненыя, што ў замку жыве людаед, які хапае маленькіх дзетак і зацягвае іх у сваё логвішча, каб спакойна есці, не баючыся пагоні, бо ніхто, апроч яго, не можа пралезці скрозь такую непралазную нетру.

Прынц не ведаў, каму даваць веры, і тут да яго падышоў адзін стары селянін і сказаў:

– Мой гаспадару, гадоў таму пяцьдзесят, а мо й болей, чуў я ад

свайго бацькі, што ў гэтым палацы ляжыць найпрыгажэйшая ва ўсім свеце прынцэса і што яна павінна праспаць сто гадоў. А потым яе, нібыта, разбудзіць малады каралевіч, якому яна і будзе суджаная.

Пры гэтых словах прынца як агнём апаліла. Ён зразумеў, што пакласці крэс гэтым чарам, без сумнення, выпадае яму. І, прагнучы кахання і славы, ён пастанавіў, што зараз жа пойдзе і ўбачыць прынцэсу. Ледзь толькі ён рушыў да зарасніка, як усе дрэвы, і хмызняк, і калючае церне самі сабой расступіліся і далі яму дарогу. Ён пабег да замка, які віднеўся ў канцы гэтага вялікага праходу, і яго толькі трошкі здзівіла, што ніхто з яго світы не здолеў пайсці за ім, бо як толькі ён ступаў крок наперад, дрэвы за спінаю ў яго зноў спляталіся шчыльнай сцяной. Але ж таму, хто малады і закаханы, нічога не страшна, і прынц смела ішоў наперад.

Неўзабаве ён апынуўся на вялікім двары перад палацам. Тое, што адкрылася тут ягоным вачам, магло б кожнага ўвагнаць у жах: тут стаяла страшная цішыня, паўсюль паўставалі выявы смерці, вакол ляжалі нерухомыя целы людзей і жывёл... Але зірнуўшы на прышчавыя насы і чырвоныя твары брамнікаў, прынц адразу здагадаўся, што яны зусім не памерлі, а ўсяго толькі спяць, і што, калі іх адолеў сон, яны проста мірна пілі віно, бо і цяпер яшчэ ў руках у іх былі недапітыя кубкі.

Прынц прайшоў праз другі двор, брукаваны мармурам, падняўся па лесвіцы і ўвайшоў у вартаўнічую залу. Там са стрэльбамі на плячах роўнымі шэрагамі стаяла варта і храпла сабе на ўсю моц. Прынц рушыў далей, адну за адной праходзячы залы, у якіх – хто стоячы, хто седзячы – спалі прыдворныя кавалеры і дамы. Нарэшце ён увайшоў у залачоны пакой, і тут яго вачам адкрылася такое хараство, якога яму яшчэ ніколі не даводзілася бачыць. На ложку з рассунутымі фіранкамі ляжала прынцэса. З выгляду ёй было гадоў пятнаццаць-шаснаццаць, і ўся яна нібыта свяцілася дзівосным, незямным бляскам.

Заміраючы ад зачаравання, прынц падышоў да ложка і ўкленчыў перад прынцэсай. У тое ж імгненне чарам настаў канец, прынцэса прачнулася і так пяшчотна зірнула на прынца, што на чалавека, якога бачыш упершыню, так паглядзець, бадай, і немагчыма.

– Гэта вы, мой прынц? – сказала яна. – Як жа доўга я вас чакала!

Зачараваны гэтымі словамі, а яшчэ больш – тым голасам, якім яны былі вымаўленыя, прынц не ведаў нават, як выказаць сваю ўдзячнасць і радасць. Ён пачаў тлумачыць, што кахае прынцэсу больш за сябе самога, словы блыталіся ў яго, але праз гэта толькі

яшчэ больш падабаліся дзяўчыне – бо чым менш красамоўства, тым болей кахання.

Прынц быў разгублены мацней за прынцэсу, і яно зразумела, бо ў прынцэсы было ўволю часу абдумаць усё, што яна скажа, калі прачнецца. Можна не сумнявацца (хоць гісторыя пра гэта маўчыць), што за такі доўгі сон добрая чараўніца навеяла ёй нямала прыемных мрояў.

Так ці іначай, але яны прагаманілі ўжо чатыры гадзіны, а не выказалі і паловы таго, што было ў іх на сэрцы.

А тым часам усё ў палацы прачнулася разам з прынцэсай. Кожны ўжо займаўся сваёю справай. Але таму, што закаханыя былі не ўсе, многім дужа хацелася есці. І адна фрэйліна ажно так згаладалася, што не вытрывала і ўголас абвясціла, што абед даўно на стале. Прынц адразу дапамог прынцэсе падняцца, бо ляжала яна апранутая, і ў вельмі прыгожай сукенцы. Прынц, праўда, змоўчаў, што сукенка гэтая нагадвае вопратку ягонай бабулі і што каўнер у яе стаяком: прынцэса і ў гэтых строях была не меней прыгожая.

Яны прайшлі ў люстраную залу, дзе іх чакаў абед. Прынцэсіны лёкаі падносілі ім стравы, а скрыпкі і дуды гралі старую, але чароўную музыку, якую сто гадоў нідзе ўжо не чулі. Пасля абеду, каб не марнаваць часу, святар павянчаў іх у замкавай бажніцы, а фрэйліна паклала іх спаць і захінула на шлюбным ложку фіранкі. Спалі яны мала, бо ў прынцэсы вялікай патрэбы ў сне не было. А раніцай прынц развітаўся з ёю і вярнуўся ў горад, дзе бацька-кароль ужо, напэўна, пачаў за яго хвалявацца.

Прынц сказаў бацьку, што, палюючы, заблудзіў у лесе і правёў ноч у хатцы ў аднаго вугальшчыка, які накарміў яго чорным хлебам і сырам. Кароль быў чалавек добры і прастадушны і паверыў сыну, але каралеву ягоныя словы зусім не пераканалі. Калі ж яна заўважыла, што сын амаль кожны дзень пачаў ездзіць на паляванне і кожны раз, па дзве-тры ночы праводзячы не дома, прыдумляе гэтаму нейкае апраўданне, яна наогул упэўнілася, што недзе ў яго завялася каханка. На той час прынц жыў з прынцэсаю ўжо цэлыя два гады, і ў іх ужо нарадзілася двое дзетак. Першую, дачку, назвалі Заранкаю, а другому, сыну, далі імя Дзень, бо ён быў яшчэ прыгажэйшы за сястру.

Часта, каб выцягнуць у сына прызнанне, каралева казала яму, што юнаку, маўляў, дазваляецца часам пашукаць у жыцці ўцех. Але прынц ніяк не адважваўся раскрыць ёй свайго сакрэту. Ён любіў сваю маці, але яшчэ болей – баяўся яе, бо яна паходзіла з людаедскага роду. І кароль, калі і ажаніўся з ёю, дык толькі дзеля яе незлічонага багацця. Сярод дворні нават хадзілі чуткі, што ў яе і цяпер засталіся людаедскія звычкі і, калі яна бачыць маленькіх

дзяцей, дык ледзь стрымліваецца, каб на іх не накінуцца. Таму прынц і не хацеў ёй нічога расказваць.

Але калі кароль памёр, а гэта здарылася праз два гады, і прынц заняў яго месца на троне, ён абвясціў усім пра свой шлюб і ўрачыста выправіўся ў лясны замак па сваю жонку. У сталіцы маладой каралеве наладзілі вельмі пышную сустрэчу. А прыехала яна адразу з дзецьмі.

Колькі часу пазней паехаў малады кароль на вайну са сваім суседам, царом Канталабутам. Каралеўства ён даручыў старой каралеве і вельмі яе прасіў даглядаць яго жонку і дзетак, бо на вайне меўся прабыць усё лета.

Ды толькі ён ад'ехаў, як старая каралева выслала нявестку з дзецьмі ў далёкі маёнтак, што стаяў сярод дрымучага лесу. Яна разлічвала, што там ёй будзе лягчэй здзейсніць свой пачварны намер. Праз некалькі дзён яна і сама прыехала ў той маёнтак і аднойчы ўвечары загадала кухару:

– Заўтра на абед прыгатуеш мне малую Заранку!

– О, пані... – сумеўся кухар.

– Я так хачу, – сказала каралева тонам людаедкі, якой карціць паесці свежае чалавечыны. – І загадваю, каб ты падаў мне яе з добраю поліўкай!

Небарака-кухар адразу ўцяміў, што жартаваць з людаедкай не варта. Ён узяў вялікі кухонны нож і пайшоў у пакой, дзе жыла Заранка.

Дзяўчынцы тады ўжо споўнілася чатыры гады. Калі яна ўбачыла кухара, яна подскакам кінулася яму насустрач, весела абняла за шыю і папрасіла цукерку. Кухар заплакаў, і нож сам выпаў у яго з рук. Тады ён пайшоў у загарадзь, зарэзаў маленькае ягня і прыгатаваў яго з такой выдатнаю поліўкай, што старая каралева потым бажылася, што нічога смачнейшага ў сваім жыцці не ела. А Заранку тым часам кухар завёў да сваёй жонкі і сказаў, каб яна схавала дзяўчынку ў сама дальняй каморцы.

Праз тыдзень злая каралева зноў паклікала кухара і загадала яму:

– Хачу, каб на вячэру мне быў прыгатаваны малы Дзень!

Кухар не стаў ёй пярэчыць, а вырашыў ашукаць, як і першы раз. Пайшоў ён да маленькага Дня і бачыць: той са сваёй дзіцячаю шабелькай ваюе вялізную малпу, а было ж яму тады ўсяго тры гады! Кухар занёс хлопчыка да сваёй жонкі і схаваў разам з Заранкаю. А сам замест Дня прыгатаваў на вячэру старой каралеве казляня, якое людаедцы вельмі ўсмакавала.

Дагэтуль усё ішло добра, але аднаго вечара злая каралева раптам сказала кухару:

– А цяпер прыгатуй мне саму маладую нявестку, ды з такой

самай поліўкай, што і ейных дзяцей!

Тут ужо кухар страціў усякую надзею, што яму зноў удасца ашукаць людаедку. Маладой каралеве было ўжо тады за дваццаць, калі не лічыць тых ста гадоў, што яна праспала. Цела ў яе было яшчэ прыгожае і белае, але ўжо не такоё мякенькае: дзе ж знойдзеш у гаспадарцы жывёлу з такім грубым мясам? Рабіць нічога не заставалася, і каб ураtаваць сваю шыю, кухар вырашыў каралеву такі зарэзаць і пайшоў да яе ў пакой, каб адным мехам з усім пакончыць. Па дарозе ён знарок распаляў у сабе злосць і ў такім настроі, з нажом у руцэ адчыніў дзверы ў спальню да маладой дзяўчыны. І ўсё ж кухару не хацелася забіваць каралеву знянацку, і спачатку ён сумленна ёй расказаў, які загад дала яму старая людаедка.

– Дык рабіце ж свой абавязак, – адказала маладая каралева і падставіла шыю, – выконвайце дадзены вам загад. Цяпер я ўжо хутка ўбачу маіх бедных дзетак, якіх я так любіла!

А пасля таго, як яе дзеткі нечакана зніклі, каралева лічыла, што яны ўжо нежывыя.

– Не-не, Васпані, – адказаў зусім расчулены небарака-кухар, – вы не памраце! І дзетак сваіх вы ўбачыце! Хадземце да мяне, я іх схаваў у сваёй каморцы. А старую каралеву я яшчэ раз ашукаю і замест вас дам ёй на вячэру маладзенькую касулю.

Ён зараз завёў каралеву ў сваю каморку і пакінуў там мілавацца ды плакаць з дзеткамі, а сам пайшоў гатаваць касулю. Людаедка з'ела яе з такім смакам, быццам гэта была сапраўды маладая каралева. Яна вельмі радавалася свайму лютаму ўчынку, а каралю, калі ён прыйдзе з вайны, збіралася сказаць, што ягоную жонку з дзецьмі з'елі шалёныя ваўкі.

Аднойчы ўвечары, як звычайна, пайшла старая людаедка пагуляць. І пачала бадзяцца сюды-туды па маёнтку ды вынюхваць, ці не пахне дзе чалавечынаю. І раптам з нейкай каморкі пачуўся голас маленькага Дня – той плакаў, бо маці хацела яго адлупцаваць за свавольства. А потым пачуўся і голас Заранкі, якая прасіла прабачэння за свайго брацікa. Пазнала людаедка галасы каралевы і яе дзетак і вельмі раззлавалася, што яе ашукалі. Страшным голасам, ад якога ўсе ажно здрыгануліся, яна загадала, каб заўтра ж раніцай на сярэдзіну двара вынеслі вялізную кадушку, напоўнілі яе рапухамі, гадзюкамі, вужакамі і іншымі змеямі, а потым укінулі туды каралеву з дзецьмі і кухара з яго жонкай і служкаю, звязаўшы ім за спінаю рукі.

І вось падвялі іх ужо да кадушкі, і каты збіраліся ўжо іх кінуць да змеяў, калі раптам на двор конна ўехаў кароль. Так рана яго зусім не чакалі. Кароль быў вельмі здзіўлены, калі ўсё ўбачыў, і спытаўся, што азначае ўвесь гэты жах? Але ніхто не адважыўся

сказаць яму праўду. І тут людаедка, ашалеўшы ад такой сваёй няўдачы, узяла раптам дый кінулася сама потырч галавой у кадушку, дзе яе адразу закусалі брыдкія гадзюкі, якіх яна загадала туды панакідаць. Караля вельмі засмуціла гэтае здарэнне, бо ўсё-такі яна была яго маці. Але жонка і дзеці хутка яго супакоілі.

**Мараль**

Перад вяселлем трошкі пачакаць,
Каб мужа добрага, прыгожага спаткаць, –
У тым няма ніякае навіны.
Але чакаць сто год і спаць спакойным сном?!
Цяпер такой санлівае дзяўчыны
Не знойдзем мы нідзе і днём з агнём.
Яшчэ, здаецца, казка нам даводзіць,
Нібыта повязі, што вяжа Гіменей,
Калі на час разлучаны, не робяцца слабей
І што чаканне тут нікому не зашкодзіць.
Але прыгожы пол з такім імпэтам
Хутчэй імкнецца свой вясельны справіць баль,
Што духу не стае аб гэтым
Такую вывесці мараль.

## Чырвоны Каптурок

Жыла сабе ў адной вёсцы дзяўчынка, і была яна такая прыгожая, што ва ўсім свеце другой такой не знайсці. Маці яе страх як любіла, а бабуля – дык наогул ледзь розум ад яе не траціла. І купіла добрая бабуля сваёй унучцы чырвоны каптурок, які так упасаваў дзяўчынцы, што пачалі яе з таго часу зваць паўсюль Чырвоным Каптурком. Неяк раз спякла маці праснакі дый кажа дачушцы:

– Схадзі мо да бабулі, даведайся, як яна сябе пачувае. Бо нешта казалі мне, што яна хворая. Занясі ёй праснакоў ды гэты гарнушак масла.

Устала Чырвоны Каптурок і пайшла да бабулі, што жыла ў суседняе вёсцы. Ідзе яна лесам, так ідзе, аж раптам выходзіць насустрач ёй Воўк. Дужа захацелася Ваўку яе з'есці, ды ён пабаяўся, бо недзе паблізу працавалі дрывасекі. Тады ён і пытаецца:

– Куды гэта ты ідзеш?

А маленькая дзяўчынка не ведала, што спыняцца ў лесе ды гаварыць з ваўкамі небяспечна, і адказвае яму:

– Я іду да бабулі і нясу ёй праснакі ды гарнушак масла, што паслала ёй мая мама.

– А ці далёка жыве твая бабуля? – пытаецца Воўк.

– О, далёка, – адказвае Чырвоны Каптурок. – Вунь аж па-за тым млынам, што ўдалечыні. Там ёсць вёска, а ў крайняй хатцы ў той вёсцы мая бабуля і жыве.

– Ну што ж, – кажа Воўк, – пайду і я да тваёй бабулі. Толькі давай я пайду гэтай вось сцежкай, а ты ідзі вунь тою: паглядзім, хто з нас паспее першы.

І Воўк з усяго духу кінуўся па сама кароткай сцежцы ў лесе, а дзяўчынка няспешна пайшла па сама доўгай. Па дарозе яна збірала арэхі, ганялася за матылькамі, складала букеты з кветак.

А Воўк тым часам хутка прыбег да бабулінай хаткі і пастукаўся ў дзверы: стук-стук!

– Хто там? – спыталася бабуля.

– Гэта я, вашая ўнучка, Чырвоны Каптурок, – сказаў Воўк падробленым голасам. – Я прынесла вам праснакоў і гарнушак масла ад матухны.

Добрая бабуля, якая ляжала ў ложку, таму што ёй трошкі нядужылася, крыкнула Воўку:

– Цісні на клямку, слясак адскочыць!

Воўк націснуў на клямку, і дзверы адчыніліся. Тады ён кінуўся на бедную бабульку і ўраз праглынуў яе, бо не еў ужо цэлыя тры дні. Потым ён зачыніў дзверы, лёг на бабуліным ложку і пачаў чакаць, калі прыйдзе Чырвоны Каптурок. Тым часам дзяўчынка якраз падышла да дзвярэй і пастукалася: стук-стук!

– Хто там? – спытаў Воўк.

Але голас у Воўка быў грубы, і Чырвоны Каптурок, пачуўшы яго, спачатку спалохалася. Але потым падумала, што бабуля, напэўна, прастуджаная, і адказала:

– Гэта я, вашая ўнучка, Чырвоны Каптурок. Я прынесла вам праснакоў і гарнушак масла ад матухны.

Тады Воўк крыкнуў трошкі танчэйшым голасам:

– Цісні на клямку, слясак адскочыць.

Чырвоны Каптурок націснула на клямку, і дзверы адчыніліся.

Увайшла дзяўчынка ў хату, а Воўк схаваўся на ложку пад коўдру і кажа:

– Пакладзі, дзетка, праснакі ды гарнушак масла на дзежку, а сама хадзі прыляж побач са мною.

Чырвоны Каптурок распранулася і сабралася ўжо класціся ў ложак, але яе ўразіла, што без адзежы ў бабулі нейкі надта ўжо дзіўны выгляд. Вось яна і кажа:

– Бабуля, якія ў вас вялікія рукі!

– Гэта каб лепей цябе абдымаць, мая ўнучанька!

– Бабуля, якія ў вас вялікія ногі!

– Гэта каб лепей бегаць, мая ўнучанька!

– Бабуля, якія ў вас вялікія вушы!

– Гэта каб лепей чуць, мая ўнучанька!

– Бабуля, якія ў вас вялікія вочы!

– Гэта каб лепей бачыць, мая ўнучанька!

– Бабуля, якія ў вас вялікія зубы!

– Гэта каб цябе з'есці!

І з гэтымі словамі злы Воўк кінуўся на Чырвонага Каптурка і з'еў дзяўчынку.

**Мараль**

Нам гэта казка добра паказала,
Што можа быць, калі малыя дзеткі,
Галоўным чынам, панначкі-какеткі,
Гатовы слухаць ўсіх, каго папала.
Не дзіва, што ў такім выпадку
Воўк іх з'ядае часта быццам курапатку
І ўсё ж заўважыць мушу асабліва:
Не ўсе ваўкі да нашага падобны,
Такія ёсць, што з выгляду лагодны,
І нораў маюць ціхі, незласлівы,
Ды так паслужліва і так добразычліва
Плятуцца за дзяўчатамі па пятах,
Па цёмных вулачках праводзячы дахаты.
Але з усіх ваўкоў – такія
Найгоршыя і самыя ліхія!

## Сіняя Барада

Жыў сабе аднаго разу вельмі багаты чалавек, і былі ў яго дзівосныя палацы ў горадзе і ў вёсцы, і залаты і срэбны посуд, і мэбля ў карунках, і залачоныя карэты. Але была, на няшчасце, у гэтага чалавека сіняя барада. І такі яна давала яму брыдкі і страшны выгляд, што ўсе дзяўчаты і кабеты, як толькі ўбачаць яго, адразу ўцякалі. А ў адной знатнай пані, ягонай суседкі, былі дзве дачкі – красуні, якіх свет не бачыў. Вось і папрасіў ён гэтую паню аддаць адну дачку за яго замуж, а якую – даў самой выбіраць. Але ніводная дачка не згаджалася быць яму жонкай. Толькі перакідвалі яго адна адной, ды ніяк не адважваліся пайсці замуж за чалавека, у якога была сіняя барада. А яшчэ ім вельмі было непрыемна, што ён ужо не раз быў жанаты, а што сталася з тымі жанчынамі – ніхто не ведаў.

Каб дзяўчаты маглі пазнаёміцца з ім трошкі лепей, запрасіў іх Сіняя Барада, разам з маці і трыма-чатырма сяброўкамі ды некалькімі хлопцамі з суседзяў, у адзін свой загарадны маёнтак, дзе гасцявалі яны цэлы тыдзень. Увесь час госці толькі гулялі ці хадзілі на шпацыр, палявалі ці лавілі рыбу, ладзілі скокі, строілі банкеты ды балі. Пра сон ніхто і не думаў, і ўсе ночы госці пацяшаліся, выдумляючы розныя штукі ды жарты. Усё было так добра, што малодшай дачцэ пачало нават здавацца, быццам барада ў гаспадара не такая ўжо сіняя, дый сам ён – чалавек вельмі прыстойны. І вось па вяртанні ў горад яны адразу згулялі вяселле.

Месяцам пазней сказаў Сіняя Барада сваёй жонцы, што трэба яму па адной важнай справе без адкладу ехаць у вёску – тыдняў, прынамсі, на шэсць. І папрасіў яе не вельмі журыцца, а знайсці якую забаву: няхай, сказаў, калі захоча, пакліча сяброўак, можа, паедзе з імі за горад, а галоўнае, дзе б ні была, няхай не забывае як след есці ды піці.

– А гэта вось табе ключы, – дадаў ён. – Гэтыя да дзвюх галоўных камораў, гэтыя – да залатога і срэбнага посуду, што ставяць на стол толькі на святы, гэтыя – да куфраў з залатымі і срэбнымі манетамі, гэтыя – да скрыняў з каштоўным каменнем, а гэтым можна адчыніць усе пакоі ў палацы. І вось яшчэ маленькі ключык – да каморкі на ніжнім паверсе, у самым канцы вялікага калідора. Можаш хадзіць паўсюль, усё адчыняць, але ў гэтую каморку ўваходзіць я строга забараняю. Забараняю так, што калі гэта здарыцца, ты павінна любой бяды чакаць ад майго гневу.

Жонка паабяцала выконваць усё, як было загадана, а Сіняя Барада пацалаваў яе, сеў у карэту і пакаціў.

Суседкі і сяброўкі вырашылі не чакаць, пакуль маладая

гаспадыня запросіць іх у госці, а ўсе прыйшлі самі – так ім карцела паглядзець на багацці, якіх у яе, па чутках, быў повен дом. Пры мужы яны баяліся да яе прыходзіць, бо іх вельмі палохала яго сіняя барада. А цяпер усе адразу кінуліся аглядаць пакоі, каморы ды гардэробы, і чым далей, тым болей захапляліся іх хараством і багаццем. Калі ж яны зайшлі ў кладоўкі, іх захапленню зусім не стала ні краю ні берагу – чаго там толькі не было: і раскошныя дываны, і пышныя ложкі, і канапы, і шафы, і столікі, і сталы, і люстры, у якіх можна бачыць сябе з галавы да пят, – адны ў каляровых шкляных рамах, другія ў срэбных, трэція ў залачоных, і ўсе такія дзівосныя і такія прыгожыя, што такіх у жыцці ніхто ніколі не бачыў. Суседкі і сяброўкі безупынку хвалілі маладую гаспадыню і вельмі зайздросцілі яе шчасцю. А дзяўчыну зусім не цешылі ўсе гэтыя скарбы: ёй рупіла хутчэй пайсці і адчыніць каморку ўнізе, у канцы калідора.

Цікаўнасць настолькі апанавала яе, што яна і не падумала, як нянетліва кідаць гасцей адных, і цішком пабегла ўніз па маленькай патаемнай лесвіцы ды так спяшалася, што ледзь галаву сабе не скруціла. Каля дзвярэй у каморку яна спынілася і раптам успомніла, што муж забараніў у яе ўваходзіць. «Ах! – падумала яна. – Будзе мне ліханька, што я не паслухалася.» Але спакуса была такая вялікая, што дзяўчына не магла ўжо яе адолець: яна ўзяла ключык і дрыготкай рукой адчыніла дзверы ў каморку.

Спачатку яна нічога не ўбачыла: у каморцы было цёмна, вокны былі зачыненыя. Але праз хвіліну яна заўважыла, што ўся падлога заліта спечанаю крывёй і ў гэтай крыві адбіваюцца целы нежывых кабет, прыкутых уздоўж муроў, – гэта былі жанчыны, з якімі Сіняя Барада спачатку жаніўся, а потым забіваў адну за адной. Яна ледзь не памерла ад жаху, і ключык, які яна ўжо вынялa, выпаў у яе з рукі.

Калі ж яна нарэшце апамяталася, яна падняла ключык, зачыніла дзверы і паднялася да сябе ў пакой, каб трошкі ачуцца. Але яна была такая перапалоханая, што супакоіцца ёй ніяк не ўдавалася.

Раптам яна заўважыла, што ключык запэцкаўся ў крыві. Яна паспрабавала яго абцерці – і раз, і другі, і трэці, але кроў не адставала. Яна яго і мыла, і нават церла пяском і жвірам, а кроў усё роўна заставалася. Ключык быў чарадзейны, і адчысціць яго было немагчыма: абатрэш кроў з аднаго боку, а яна выступае з другога.

Таго ж вечара вярнуўся з вандроўкі Сіняя Барада. Ён сказаў жонцы, што па дарозе атрымаў ліст, у якім яму паведамлялі, што справа, дзеля якой ён ехаў, вырашылася на яго карысць. Жонка ўсімі спосабамі старалася паказаць, як радуецца, што ён так хутка

вярнуўся.

Назаўтра ён папрасіў у жонкі ключы. І калі яна іх аддавала, рукі ў яе так калаціліся, што Сіняя Барада адразу здагадаўся пра ўсё, што здарылася.

– Чаму гэта, – спытаў ён, – разам з іншымі няма ключыка да каморкі?

– Я, напэўна, пакінула яго наверсе, у сябе ў пакоі на стале, – адказала яна.

– Прынясі мне яго, – сказаў Сіняя Барада, – і хутчэй.

Пасля розных адцяжак ды адгаворак, ключык давялося такі аддаваць. Сіняя Барада агледзеў яго і сказаў:

– Адкуль гэта на ключы кроў?

– Не ведаю, – адказала няшчасная жанчына і спалатнела як нежывая.

– Ты не ведаеш?! – перапытаў Сіняя Барада. – Ну, дык я ведаю! Ты хацела ўвайсці ў каморку! Што ж, добра. Ты ўвойдзеш туды – і зоймеш сваё месца побач з іншымі жанчынамі, якіх ты там бачыла.

Яна кінулася мужу ў ногі, пачала плакаць, прасіць прабачэння і, па ўсім відаць, шчыра раскайвалася, што была такая непаслухмяная. Здаецца, нават камень расчуліўся б ад маленняў такой прыгажуні. Але ў Сіняе Барады сэрца было чарсцвейшае за камень.

– Ты павінна памерці, – прамовіў ён, – і зараз жа!

– Калі ўжо я павінна памерці, – сказала жонка, гледзячы на яго вачыма, поўнымі слёз, – дык дай мне хоць трошкі часу памаліцца Богу.

– Даю табе паўчвэрткі гадзіны, – адказаў Сіняя Барада, – і ні хвіліны болей.

Калі ён пайшоў і бедная жанчына засталася адна, яна паклікала сваю сястру і сказала ёй:

– Сястра мая Ганна (а так яе звалі), прашу цябе, падыміся на вежу ды паглядзі, ці не едуць нашыя браты, яны абяцалі сёння завітаць да мяне ў госці. Калі іх убачыш, дай ім знак, каб яны паспяшаліся.

Сястра Ганна паднялася на вежу, а нябога ў вялікім смутку час ад часу гукала яе:

– Ганна, сястра мая Ганна, ці не відаць, каб хтось ехаў?

А сястра Ганна адказвала:

– Не відаць нічога, толькі сонейка яснее, толькі траўка зелянее.

Тым часам Сіняя Барада схапіў вялізны нож і крыкнуў на ўсё горла:

– Ану, спускайся хутчэй, ці зараз я сам да цябе падымуся!

– Зараз, зараз, калі ласка, яшчэ хвілінку, – адказала жонка і

зноўку ледзь чутна гукнула:

– Ганна, сястра мая Ганна, ці не відаць, каб хтось ехаў?

А сястра Ганна адказвала:

– Не відаць нічога, толькі сонейка яснее, толькі траўка зелянее.

– Ану, спускайся хутчэй, – крыкнуў Сіняя Барада, – ці зараз я сам да цябе падымуся!

– Ужо іду, – адказала жонка, а сама зноў гукнула сястру. – Ганна, сястра мая Ганна, ці не відаць, каб хтось ехаў?

– Бачу, бачу! – адказала сястра Ганна. – Вялізны слуп пылу! Ён набліжаецца да нас…

– Ці не нашыя гэта браты?

– Ах, сястра мая, на жаль, не, гэта статак бараноў…

– Ці спусцішся ты нарэшце? – крыкнуў Сіняя Барада.

– Яшчэ адну хвілінку, – адказала жонка і зноў гукнула сястру. – Ганна, сястра мая Ганна, ці не відаць, каб хтось ехаў?

– Бачу, – адказала тая, – два коннікі скачуць сюды, але яны яшчэ вельмі далёка.

І праз хвіліну дадала:

– Дзякуй Богу, гэта нашыя браты! Зараз я дам ім знак, каб яны паспяшаліся.

Тут Сіняя Барада закрычаў так моцна, што ўвесь палац скалануўся. Нябога выйшла да мужа і ў слязах, з раскудлачанымі валасамі, кінулася яму ў ногі.

– Усё дарма, – сказаў Сіняя Барада. – Настаў твой смяротны час!

Ён ухапіў яе адной рукою за валасы, другой падняў свой страшны кухонны нож і ўжо мерыўся быў адсячы ёй галаву… Бедная кабета зірнула на мужа змярцвелымі вачыма і апошні раз папрасіла:

– Дай мне яшчэ хоць адно імгненне.

– Не, не! – адказаў ён. – Бог за цябе памоліцца.

Ён падняў руку і…

У гэтую хвіліну пачуўся такі моцны грукат у браму, што ад нечаканасці Сіняя Барада спыніўся. Брама не вытрымала, расчынілася, і на двор уляцелі два коннікі. Яны адразу выхапілі шпагі і кінуліся да Сіняе Барады.

Убачыўшы братоў сваёй жонкі – а з іх адзін быў драгун, а другі мушкецёр – Сіняя Барада кінуўся наўцёкі. Але браты дагналі яго раней, чым ён паспеў узбегчы на ганак. Яны працялі яго наскрозь шпагамі і кінулі паміраць. Бедная жонка Сіняе Барады была і сама ледзь жывая, у яе не было сілы нават падняцца і абняць сваіх ратаўнікоў.

Сталася так, што ў Сіняе Барады зусім не было спадкаемцаў, і ўсе яго скарбы засталіся ягонай жонцы. Адну частку мужавага

багацця яна выкарыстала, каб выдаць сястру Ганну за маладога пана, які быў даўно ў яе закаханы; на другую – купіла братам капітанскія чыны, а за астатняе – сама згуляла вяселле з вельмі сумленным і добрым чалавекам, з якім хутка забылася на ўсё гора, што ёй давялося перажыць з Сіняю Барадой.

**Мараль**

Жанчын цікаўнасць часта спакушае,
Але нярэдка іх раскаянне чакае.
І прыкладаў таму – нямала кожны дзень.
Такі капрыз – нікчэмная патрэба:
Яго здаволіш – і знікае ён, як цень,
А вось плаціць пасля занадта доўга трэба.

**Другая мараль**

Жыцця не трэба ведаць дасканала
І розум не вялікі трэба мець,
Каб, прачытаўшы казку, зразумець,
Што так, бадай, спрадвеку не бывала.
Хто бачыў дзе мужоў такіх жахлівых,
Што патрабуюць ад жанчын таго, што немажліва?
Хай і раўнівы муж – таго не бачна звонку,
Бо ён заўжды імкнецца ўлашчыць сваю жонку.
І ўжо якая б ні была ў мужа барада,
Сказаць не проста, хто ў сям'і сапраўдны гаспадар.

## Кот у ботах

Памёр адзін млынар і пакінуў сваім тром сынам толькі млын, асла ды ката. Спадчыну дзялілі нядоўга; нават суддзю з падсудкам не клікалі, бо з гэтымі, вядома, нічога не засталося б ад такога небагатага набытку. Старэйшы брат узяў сабе млын, сярэдні – асла, а малодшаму дастаўся кот.

Вельмі смуткаваў малодшы брат, што выпаў яму такі горкі лёс.

– Добра маім братам, – казаў ён. – Калі будуць жыць разам, дык і на хлеб змогуць сабе зарабіць. А я – з'ем свайго ката, зраблю з яго скуры рукавіцы, а потым – хоць ты з голаду пухні.

Пачуў Кот гэтыя словы, але выгляду не падаў. І сказаў такім разважным і сур'ёзным голасам:

– Не журыцеся, мой гаспадару, дайце мне лепей якую торбу ды купіце боты – каб мне было ў чым лазіць па кустах. А тады ўбачыце, што не такая ўжо благая вам выпала доля, як здаецца.

Хлопец, вядома, не даў Катовым словам вялікае веры. Але й не збезнадзеіўся, бо хто яго ведае, можа, і праўда, Кот дасць яму якое рады ў няшчасці. Хлопец часта бачыў, як спрытна Кот лавіў пацукоў і мышэй: то павісаў на адных лапах, то хаваўся ў муцэ ды прыкідваўся мёртвым.

Неўзабаве Кот атрымаў усё, чаго прасіў. Ён адразу хвацка нацягнуў боты, закінуў за плечы торбу і, узяўшы яе абедзвюма пярэднімі лапамі за матуз, рушыў у лес, дзе вадзілася многа трусоў. У торбу ён насыпаў вотруб'я, заечай капусты, а сам лёг на зямлі і, удаўшыся за мёртвага, пачаў чакаць, калі якое трусяня, не надта яшчэ абазнанае ва ўсякіх хітрасцях свету, залезе ў торбу, каб пачаставацца пакладзенымі туды ласункамі.

І толькі паспеў ён легчы, як адразу з радасцю ўбачыў, што нейкае легкадумнае трусяня ўжо капошыцца ў торбе. Кот, не марудзячы, зашморгнуў матуз, схапіў труса і бязлітасна яго забіў.

Горды здабычай, ён рушыў да караля і папрасіў мовіць перад ім слова. Ката пусцілі ў пакоі Яго Вялікасці. Увайшоўшы, Кот нізка пакланіўся каралю і сказаў:

– Вашамосць, гэтага труса мне даручыў паднесці вам ад свайго імя пан маркіз дэ Карабас (такое імя яму ўздумалася даць свайму гаспадару).

– Ну што ж, – адказаў кароль, – скажы свайму гаспадару, што я яму дзякую і вельмі рады яго падарунку.

Другі раз Кот схаваўся ў жыце і зноў разгарнуў сваю торбу, а калі ў яго ўлезлі дзве курапаткі, зацягнуў матуз і злавіў абедзвюх. Потым, як і труса, ён занёс курапатак да караля. Кароль прыняў падарунак ізноў з вялікім задавальненнем і загадаў даць Кату гасцінца.

Так два ці тры месяцы Кот насіў каралю дзічыну, упаляваную нібыта яго гаспадаром. І аднойчы даведаўся, што кароль са сваёю дачкой, найпрыгажэйшаю прынцэсаю ў свеце, збіраецца выправіцца на шпацыр па беразе рэчкі. Вось і кажа ён свайму гаспадару:

– Калі вы паслухаецеся маёй парады, дык будзеце шчаслівы да канца сваіх дзён. А дзеля гэтага вам трэба зрабіць адно: пайсці да рэчкі і там, дзе я пакажу, залезці ў ваду. Усё астатняе я зраблю сам.

Маркіз дэ Карабас паслухаўся Ката і зрабіў усё, як той яму нараіў, хоць, праўду кажучы, зусім не разумеў, навошта ўсё гэта трэба.

І вось сядзіць ён у вадзе, а побач якраз праязджае кароль. Тут Кот як закрычыць:

– Ратуйце! Ратуйце! Маркіз дэ Карабас топіцца!

Пачуўшы гэтыя крыкі, кароль высунуў галаву з карэты і, пазнаўшы Ката, які столькі разоў насіў яму дзічыну, адразу загадаў сваёй варце хутчэй бегчы і дапамагчы маркізу дэ Карабасу.

Пакуль небараку маркіза выцягвалі з рэчкі, Кот падышоў да карэты і сказаў каралю, што калі яго гаспадар купаўся, нечакана з'явіліся злодзеі і ўкралі ўсё яго адзенне, хоць ён, Кот, крычаў на ўсю сілу: «Трымай іх! Трымай злодзеяў!» (Адзенне ж хітрун схаваў пад вялікім каменем.)

Кароль адразу загадаў служкам пры сваім гардэробе паехаць і прывезці пану маркізу дэ Карабасу адзін з найлепшых сваіх гарнітураў. Калі маркіз апрануўся, кароль сустрэў яго вельмі ласкава. А таму, што прыгожае адзенне, якое маркізу прывезлі, вельмі яму пасавала (а ён і сам з сябе быў хлопец ладны ды зграбны), то каралеўская дачка адразу яго ўпадабала. І варта было маркізу дэ Карабасу два-тры разы зірнуць на каралеўну з пашанай і трошкі з пяшчотай, як яна закахалася ў яго без памяці.

Кароль запрасіў маркіза ў карэту, і далей яны паехалі разам. Кот вельмі радаваўся, што яго планы пачынаюць спраўджвацца. Ён пабег наперад і, убачыўшы на сенажаці сялян, якія касілі траву, сказаў ім:

– Гэй, людзі добрыя, касцы! Ведайце: калі вы не скажаце каралю, што гэтая сенажаць належыць маркізу дэ Карабасу, вас усіх патаўкуць на дробны мак!

Кароль сапраўды спытаў у касцоў, чыю гэта сенажаць яны косяць?

– Маркіза дэ Карабаса, – адказалі яны ўсе хорам, бо Катова пагроза вельмі іх напалохала.

– У вас добрыя землі, – сказаў кароль маркізу дэ Карабасу.

– Але, Ваша Вялікасць, – адказаў маркіз. – Гэтая сенажаць

кожны год дае багаты прыбытак.

А Кот усё бег наперадзе. І калі напаткаў жняцоў, сказаў ім:

– Гэй, людзі добрыя, жняцы! Ведайце: калі вы не скажаце, што ўсё гэтае жыта належыць маркізу дэ Карабасу, вас усіх патаўкуць на дробны мак!

Кароль, які праязджаў хвілінай пазней, захацеў даведацца, чыё гэта жыта расце ўздоўж дарогі?

– Маркіза дэ Карабаса, – адказалі жняцы.

І кароль зноў парадаваўся такому адказу разам з маркізам.

А Кот усё бег наперадзе карэты і ўсім, каго ні сустракаў, паўтараў тое самае. Кароль быў вельмі ўражаны вялікім багаццем маркіза дэ Карабаса.

Нарэшце Кот прыбег у раскошны замак, дзе гаспадаром быў Людаед, найбагацейшы з усіх людаедаў у свеце, бо ўсе землі, па якіх праязджаў кароль, былі пад уладаю гэтага замка.

Кот, які загадзя паклапаціўся праведаць, хто такі гэты Людаед і што ён умее рабіць, папрасіў дазволу пагутарыць з ім. Ён сказаў, што не мог прайсці міма замка і не выказаць яго гаспадару пашаны.

Людаед прыняў яго так ветліва, як толькі можа прыняць людаед, і запрасіў садзіцца.

– Мяне запэўнівалі, – раптам сказаў яму Кот, – што вы нібыта здольны пераўтварацца ва ўсякіх жывёл, што вы можаце зрабіцца, напрыклад, ільвом ці сланом.

– Гэта праўда, – грубым голасам адказаў Людаед. – І каб ты мог сам убачыць і болей не сумняваўся, я зараз на тваіх вачах абярнуся ў ільва.

Кот так напалохаўся, убачыўшы перад сабой ільва, што стрымгалоў ускараскаўся аж на самы дах, хоць зрабіць гэта было цяжка, дый небяспечна, бо хадзіць у ботах па гонце вельмі нязручна.

Праз хвілінку, калі Людаед набыў свой ранейшы выгляд, Кот спусціўся з даху і прызнаўся, што леў нагнаў на яго добрага страху.

– А яшчэ мне бажыліся, – сказаў Кот, – ды ў гэта я ўжо зусім не веру, быццам вы ўмееце абарочвацца ў сама драбнюткіх звяркоў, і можаце абярнуцца, напрыклад, у пацука ці ў мыш. Але мне, прызнаюся, здаецца, што гэта абсалютна немагчыма.

– Немагчыма? – зароў Людаед. – Зараз пабачыш.

І ў тое ж імгненне ёнператварыўся ў мыш, якая забегала па падлозе. Толькі Кот яе ўбачыў, як адразу кінуўся на яе і з'еў.

Тымчасам побач якраз праязджаў кароль. Ён заўважыў раскошны людаедаў замак і захацеў паглядзець яго зблізу.

Кот пачуў грукат карэты, якая ехала па пад'ёмным мосце, выбег насустрач і сказаў каралю:

– Сардэчна запрашаем Вашу Вялікасць у замак маркіза дэ

Карабаса!

– Няўжо, пане маркізе?! – крыкнуў кароль. – І гэты замак таксама ваш? Хіба можа быць штосьць прыгажэйшае за гэты двор і будынкі?! Калі дазволіце, хацелася б зірнуць і на вашыя пакоі.

Маркіз падаў маладой прынцэсе руку, і следам за каралём, які йшоў наперадзе, яны ўвайшлі ў вялікую залу. Там стаяў стол з дзівоснымі стравамі, прыгатаванымі Людаедам сваім сябрам, якія меліся завітаць да яго ў той самы дзень, але не адважыліся, ўбачыўшы, што ў замак прыехаў кароль.

Кароль быў зачараваны знатнасцю маркіза дэ Карабаса, а яго дачка ад кахання ледзь зусім не страціла розум. І вось, убачыўшы, што маркіз валодае такім вялікім багаццем, кароль праглынуў пяць ці шэсць кубкаў запар і прамовіў:

– А ці не хочаце вы, пане маркізе, быць мне зяцем?

З нізкім паклонам маркіз падзякаваў каралю за такі вялікі гонар і таго ж дня ажаніўся з прынцэсай. А Кот зажыў вялікім панам і болей ужо не лавіў мышэй. Хіба што зрэдку – дзеля забавы.

**Мараль**

Якія б ні былі выгоды
У тым, што ў спадчыну заўсёды
Сынам ад бацькі застаецца ўвесь пажытак,
Хай помняць маладыя людзі,
Што кемлівасць заўсёды будзе
Каштоўнейшая за любы прыбытак.

**Другая мараль**

З таго, што малады млынар
Ад мілае прынцэсы ў дар
Змог атрымаць і сэрца, і руку,
Зрабіць выснову досыць проста:
Пытанні вопраткі і ўзросту
Ў каханні маюць не маленькую вагу.

## Чараўніца

Жыла сабе раз удава, і былі ў яе дзве дачкі. Старэйшая і з характару, і з твару была вельмі падобная да маці, – такая падобная, што людзі, убачыўшы іх разам, не маглі адрозніць, дзе адна, а дзе другая. Абедзве яны былі такія агідныя і такія фанабэрыстыя, што жыць з імі было немагчыма. А вось меншая дачка сваёй дабрынёй і сумленнасцю была чысты бацька. І апроч таго яна была такая прыгожая, што другой такой не было нідзе ў свеце. Ды ўсё ж, вядома, падобнага да сябе любяць болей, і таму ўдава вельмі любіла старэйшую дачку і трываць не магла малодшай. Яна прымушала яе есці толькі на кухні і ўвесь час давала ёй якую-небудзь цяжкую працу.

Абавязкам беднай дзяўчыны было двойчы на дзень хадзіць па ваду аж за дзве вярсты ад дома, і кожны раз яна павінна была прынесці вялізны збан, поўны да берагоў. І вось аднаго разу, калі яна была ля крыніцы, да яе падышла бедная кабета і папрасіла напіцца.

– Зараз, зараз, цётачка, – сказала прыгожая дзяўчына.

Яна хуценька спаласнула збан, наліла ў яго вады з найчысцейшага месца ў крыніцы і падала яго кабеце. Каб той зручней было піць, дзяўчына ўвесь час яго падтрымлівала. Напіўшыся, кабета сказала:

– Ты такая прыгожая, такая добрая і такая ветлівая, што я хачу зрабіць табе падарунак (а гэта была чараўніца, якая наўмысна абярнулася беднай сялянкай, каб пабачыць, якое сумленне ў гэтай дзяўчыны).

– Я вырашыла надзяліць цябе дарам, – сказала чараўніца. – Дзякуючы яму пры кожным слове, якое ты вымавіш, з рота ў цябе будзе выпадаць кветка або каштоўны камень.

Неўзабаве дзяўчына вярнулася дадому. Маці адразу накінулася на яе сварыцца, што яна так доўга хадзіла па ваду.

– Калі ласка, мама, даруйце, што я так спазнілася, – сказала бедная дзяўчына.

І пры гэтых словах з рота ў яе ўпалі дзве ружы, дзве перліны і два вялікія дыяменты.

– Што такое? – крыкнула маці, вельмі здзівіўшыся. – Па-мойму, у яе з рота выпалі дзве перліны і два дыяменты?! Адкуль гэта ў цябе, дачушка мая? (Гэта быў першы раз, калі яна назвала яе дачушкай.)

Бедная дзяўчына шчыра распавяла ёй пра ўсё, што з ёй здарылася, і насыпала пры гэтым безліч дыяментаў.

– Вось табе маеш! – сказала маці. – Трэба будзе паслаць туды і маю старэйшую. Чуеш, Фаншона? Пабач, што падае ў тваёй

сястры з рота, калі яна гаворыць! Хочаш мець такі дар? Тады бяры збанок, ды схадзі па ваду да крыніцы, а калі якая-небудзь бедная кабета папросіць у цябе напіцца, налі ёй у збанок вады ды напаі.

– Яшчэ чаго! – груба адказала Фаншона. – Ніколі такога не будзе, каб я пайшла на крыніцу!

– А я кажу, што пойдзеш, – паўтарыла маці, – і зараз жа.

Давялося такі старэйшай дачцэ ісці, хоць яна ўвесь час незадаволена бурчала. А з сабой яна ўзяла найлепшы срэбраны збанок, які быў у хаце. І вось, ледзь яна паспела падысці да крыніцы, як убачыла, што з лесу выйшла раскошна апранутая пані. Гэта была тая самая чараўніца, якая раней гутарыла з яе сястрой, а цяпер абярнулася прынцэсай, каб пабачыць, наколькі гэтая дзяўчына можа быць несумленная. Яна падышла да старэйшай сястры і папрасіла ў яе напіцца.

– Яшчэ чаго! – груба крыкнула чараўніцы фанабэрыстая дзяўчына. – Што я сюды прыйшла вам ваду падаваць?! Ці вы думаеце, я прынесла гэты срэбраны збанок, каб вы з яго тут пілі! Вось што я вам скажу: піце проста з крыніцы, калі вам так хочацца.

– Вы вельмі няветлівая, – адказала чараўніца, але на твары ў яе не выявілася ніякага гневу. – Ну што ж, калі вы такая грубая, я надзялю вас дарам: пры кожным слове, якое вы скажаце, з рота ў вас будзе выскокваць гадзіна ці рапуха.

Яшчэ здалёк заўважыўшы сваю любую дачушку, маці закрычала:

– Ну што, дачушка мая?

– А нічога, мая матухна… – адказала грубіянка, і з рота ў яе выскачылі дзве рапухі і дзве гадзіны.

– О неба! – крыкнула маці. – Што я бачу? Усё гэта з-за тваёй сястрыцы! Ну, яна ўжо мне заплаціць!

І яна пабегла па малодшую дачку, каб яе набіць. Але бедная дзяўчына ўцякла і схавалася ў лесе.

Там яе і спаткаў сын караля, які вяртаўся з палявання. Ён заўважыў, якая яна прыгожая, і спытаўся, чаму яна тут адна і чаго плача.

– О, пане! – адказала дзяўчына. – Маці выгнала мяне з хаты.

Убачыўшы, што з рота ў яе выпалі шэсць перлаў і столькі ж дыяментаў, сын караля вельмі здзівіўся і спытаў, як у яе гэта выходзіць. І дзяўчына расказала гісторыю, якая з ёй здарылася. Пачуўшы гэта, сын караля вельмі ў яе закахаўся і падумаў, што такі дар варты ўсяго, што могуць даць у пасаг за любой прынцэсай. Ён прывёз дзяўчыну ў палац да свайго бацькі-караля, і там яны пажаніліся.

Што ж да яе сястры, дык тая хутка ўжо так усім абрыдла, што родная маці не вытрывала ды выгнала яе з хаты. Нябога доўга

тулялася сям і там, але так і не знайшла нікога, хто б яе прытуліў. Так яна і памерла адна ў нейкім глухім лясным закутку.

**Мараль**

Дыяменты і аздобы
Вабяць моцна ўсіх людзей,
Але ветлівыя словы
Больш маюць сілы і каштуюць даражэй.

**Другая мараль**

Няпроста дагаджаць усім
І далікатным быць заўсёды,
Ды ўрэшце ўсё вянчае ўзнагарода –
Якраз тады, як пра яе не думаеш зусім.

## Папялушка, ці Крышталёвы пантофлік

Жыў сабе адзін удавец, і вырашыў ён ажаніцца другі раз. Ды ўзяў сабе ў жонкі сама ганарыстую і сама фанабэрыстую кабету ў свеце. Ад першага мужа былі ў той кабеты дзве дачкі, і мелі яны такі самы дрэнны характар, як і іхняя маці. А ў чалавека таксама была дачка, але характару добрага, ласкавага – такога, што і параўнаць няма з чым. Яна пераняла яго ад маці-нябожчыцы, найдабрэйшай жанчыны, якую толькі можна сабе ўявіць.

І вось, не паспелі яшчэ згуляць вяселле, як мачаха пачала аказваць свой злы нораў: яна трываць не магла сваёй добрай падчаркі, побач з якой яе дочкі здаваліся яшчэ болей агіднымі. Яна прымусіла бедную дзяўчыну рабіць сама чорную работу ў хаце. Падчарка павінна была мыць падлогу і посуд, прыбіраць у спальнях у мачахі і ў яе дачок, а сама спала ў маленькім пакойчыку на гарышчы, дзе ложкам ён быў мулкі сяннік. У сёстрыных пакоях падлога была тафлёваная, стаялі модныя ложкі і віселі вялікія люстры, у якіх можна было агледзець сябе з галавы да ног. Але бедная дзяўчына моўчкі цярпела такую несправядлівасць і не адважвалася паскардзіцца бацьку, які за гэта толькі насварыўся б на яе, бо ва ўсім патрафляў новай жонцы.

Калі дзяўчына ўпраўлялася з працай, яна ціхутка сядала каля агменя ў закутку, у які звычайна змяталі попел. І таму ў хаце яе прaзвалі Папялдупкай. Праўда, малодшая сястра была не такая шкодная, як старэйшая, і звала яе проста Папялушкай. Але нават у беднай вопратцы Папялушка была ў сто разоў прыгажэйшая за сваіх раскошна прыбраных сястранак.

Аднойчы сын тамтэйшага караля даваў баль і запрасіў на яго ўсіх знакамітых асоб. Дзвюм нашым паненкам таксама прыйшло запрашэнне, бо ў тых краях іх род належаў да высокага свету. Вось ужо яны ўзрадваліся! Кінуліся адразу выбіраць найлепшыя гарнітуры, прыдумляць прычоскі, каб выглядаць прыгажэйшымі. Але больш за ўсё клопату выпала зноў Папялушцы: яна прасавала сёстрам бялізну, крухмаліла каўнерыкі і манжэты. А тыя толькі і гаманілі, як ды ўва што прыбяруцца.

– Я, – сказала старэйшая, – надзену чырвоную аксамітную сукенку і накідку з карункамі.

– А я, – сказала малодшая, – буду ў звычайнай сукенцы, але наверх надзену манто з залатымі кветкамі і закалю ў валасы дыяментавую шпільку.

Каб завіць паненкам дробныя кудзеркі, паслалі па найлепшую цырульніцу, у найлепшай краме купілі ім банты. Нарэшце паклікалі спытаць парады і Папялушку, бо густ у яе быў вельмі добры. Папялушка агледзела сястрыц, шчыра параіла ім, як ды

што дзе паправіць лепей, і нават сама ўзялася іх прычасаць, на што сёстры адразу згадзіліся.

Пакуль Папялушка прычэсвала іх, сёстры ў яе пыталіся:

– Папялушка, скажы, а ты была б радая, каб і цябе запрасілі на баль?

– Што вы, паненкі, усё кпіце з мяне. Хіба ж мне туды можна?

– І то праўда. Вось бы пасмяяліся ўсе, каб убачылі, як Папялдупка на баль сунецца!

За такія кпіны іншая наўмысна прычасала б іх дрэнна, але ў Папялушкі было добрае сэрца, і яна пастаралася зрабіць сёстрам сама прыгожыя прычоскі. А сёстры так ужо радаваліся, так радаваліся, што два дні амаль нічога не елі. Ды ўсё роўна, зацягваючы гарсэты, парвалі цэлы тузін шнуроў, пакуль ім удалося надаць трошкі зграбнасці сваім станам. Увесь час яны толькі і круціліся перад люстрам.

Нарэшце радасны дзень настаў, і сёстры выправіліся на баль. Папялушка доўга, як магла, праводзіла іх вачыма, а калі карэта знікла за паваротках, горка заплакала. Хросная ўбачыла, што дзяўчына плача, і спыталася, што здарылася?

– Мне так хацелася б… мне так хацелася б…

Але Папялушка плакала так горка, што не здолела дагаварыць.

Тады хросная, якая была чараўніца, сказала:

– Ты, напэўна, вельмі хочаш на баль?

– Але! Вельмі хачу, – адказала Папялушка і сумна ўздыхнула.

– Ну што ж, калі ты будзеш паслухмяная дзяўчынка, – паабяцала хросная, – то я зраблю, каб ты туды трапіла.

Яна завяла яе ў свой пакой і сказала:

– Ідзі ў сад ды прынясі мне гарбуз.

Папялушка адразу пабегла ў сад, выбрала там найлепшы гарбуз і прынесла яго хроснай. Але яна ніяк не магла зразумець, як гэты гарбуз можа дапамагчы ёй трапіць на баль? Хросная тым часам вычысціла гарбуз, пакінуўшы адну лупіну, дакранулася да яго чарадзейнаю палачкай, і гарбуз адразу ператварыўся ў чароўную залачоную карэту.

Потым хросная пайшла да мышынае пасткі, дзе аказалася шэсць мышак. Яна загадала Папялушцы трошкі адчыніць дзверцы, і калі мышы адна за адной пачалі выскокваць, дакраналася да кожнай чарадзейнаю палачкай, і мышы адразу ператвараліся ў коней. Праз хвіліну перад імі стаяў ужо выдатны шасцярык шэрых мышастых коней.

Папялушка заўважыла, што хросная задумалася, з чаго ёй зрабіць фурмана, і сказала:

– Чакайце, пайду я гляну, можа ў вялікую пастку трапіў пацук? З яго і зробім фурмана.

– І то праўда, – пагадзілася хросная. – Ідзі зірні.

Папялушка прынесла вялікую пастку. А ў ёй сядзелі тры тлустыя пацукі. Чараўніца выбрала таго, у якога былі даўжэйшыя вусы, дакранулася да яго палачкай, і пацук перавярнуўся ў пузатага фурмана з такімі раскошнымі вусамі, якіх ніхто ніколі не бачыў. Тады хросная сказала Папялушцы:

– А цяпер ідзі ў сад, і там за калодзежам убачыш шэсць яшчарак. Прынясі іх мне.

Прынесла Папялушка яшчарак, і хросная адразу ператварыла іх у шэсць прыгожа апранутых лёкаеў, якія адразу сталі на запяткі, нібыта ўсё жыццё толькі гэтае і рабілі.

Тады чараўніца сказала Папялушцы:

– Ну вось, цяпер у цябе ёсць на чым ехаць на баль. Ты рада?

– Вядома, рада, – адказала Папялушка. – Але як жа я паеду ў такой брыдкай вопратцы?

Хросная толькі дакранулася да яе сваёй палачкай, і ў тую ж хвіліну Папялушчына сукенка ператварылася ў дзівоснае ўбранне, абсыпанае каштоўным каменнем. Потым хросная дала дзяўчыне пару найпрыгажэйшых у свеце крышталёвых пантофлікаў.

Калі Папялушка, багата прыбраная, ужо села ў карэту, хросная яе папярэдзіла, што, як бы там ні было, але на балі яна не павінна заставацца пазней за поўнач, бо калі яна запозніцца хоць на хвіліну, яе карэта зноў зробіцца гарбузам, коні – мышамі, лёкаі – яшчаркамі, а адзенне набудзе свой ранейшы выгляд.

Дзяўчына паабяцала хроснай, што да поўначы абавязкова пакіне баль, і, не помнячы сябе ад радасці, ад'ехала.

Сын караля, якому паведамілі аб прыездзе нікому не вядомай важнай і багатай прынцэсы, сам выйшаў яе сустракаць. Каб дапамагчы ёй выйсці з карэты, ён падаў ёй руку і правёў у залу, дзе сабраліся госці. Адразу ж запанавала поўная цішыня, усе кінулі танцаваць, скрыпкі змоўклі – так моцна ўсе былі ўражаныя незвычайнаю прыгажосцю незнаёмай прынцэсы. Чуўся толькі прыглушаны шэпт: «Ах! Якая яна прыгожая!» Нават кароль, хоць быў ужо вельмі стары, не мог звесці з яе вачэй і ціхутка прызнаўся каралеве, што даўно ўжо не бачыў такой прыгожай і прыемнай асобы. Усе паненкі ўважліва разглядалі яе прычоску і вопратку, каб заўтра зрабіць сабе такую самую, калі знойдуцца прыдатная тканіна і ўмелыя швачкі.

Сын караля пасадзіў прынцэсу на сама пачэснае месца, а потым запрасіў яе на танец. Яна танцавала так зграбна, што ўсе яшчэ больш замілаваліся ёю. Потым прынеслі сама раскошныя стравы, але малады прынц амаль нічога не еў: ён увесь час толькі і пазіраў на Папялушку. А яна села побач са сваімі сястранкамі і пачала іх усяляк хваліць. Яна пачаставала сясцёр апельсінамі ды

цытрынамі, якія падаў ёй прынц, і гэта іх вельмі здзівіла, бо яны зусім не пазнавалі Папялушкі.

Але тут, гамонячы з сёстрамі, Папялушка пачула, як гадзіннік прабіў без чвэрткі поўнач. Яна адразу раскланялася перад гасцямі і як мага хутчэй пабегла з палаца.

Калі яна вярнулася дадому, яна пайшла да хроснай і вельмі ёй падзякавала. А потым прызналася, што і заўтра таксама хацела б паехаць на баль, бо яе запрашаў каралевіч. І вось, калі яна сядзела і распавядала хроснай пра тое, як праходзіў баль, у дзверы пастукаліся сёстры. Папялушка пабегла ім адчыняць.

– Як доўга вас не было! – сказала яна, пазяхаючы, і пачала церці вочы і пацягвацца, быццам толькі што прачнулася. Між тым яна і не думала спаць з той хвіліны, як яны рассталіся.

– Каб ты была на балі, – сказала ёй адна сястра, – табе не давялося б так нудзіцца. Там была такая прыгожая прынцэса, найпрыгажэйшая ў свеце! Яна нагаварыла нам столькі прыемных словаў! І яшчэ пачаставала апельсінамі і цытрынамі!

Папялушка, не помнячы сябе ад радасці, спытала, а як звалі тую прынцэсу? Але сёстры адказалі, што, на жаль, не ведаюць яе імя і што сын караля быў гэтым таксама вельмі засмучаны і аддаў бы ўсё на свеце, каб даведацца, хто яна і адкуль. Папялушка ўсміхнулася і сказала:

– Няўжо яна была такая прыгожая? Божа мой! Якія вы шчаслівыя! Як бы я хацела хоць раз зірнуць на яе. Ах! Мілая Жавота, пазычце мне ваш жоўты гарнітур, у якім вы ходзіце кожны дзень.

– Ага, – сказала Жавота, – так я і згадзілася! Аддаць ёй свой гарнітур, гэтай бруднай Папялдупцы! Трэба, каб я раней звар'яцела!

Папялушка чакала, што ёй адмовяць, і толькі парадавалася гэтаму, бо каб сястра згадзілася пазычыць ёй сваё адзенне, яна апынулася б у даволі цяжкім становішчы.

Назаўтра абедзве сястры зноў былі на балі, і Папялушка – таксама, але ў яшчэ прыгажэйшым убранні, чым мінулы раз. Сын караля ўвесь час завіхаўся вакол яе і безупынна абсыпаў рознымі пяшчотамі. Дзяўчыне зусім не было часу нудзіцца, і яна забылася на тое, пра што яе папярэджвала хросная. Ёй здавалася, што яшчэ толькі адзінаццаць, калі раптам гадзіннік выбіў першы ўдар, абвяшчаючы поўнач. Яна падскочыла і жвава, як касуля, кінулася ўпрочкі. Прынц пабег быў за ёю, але дагнаць так і не здолеў. Па дарозе дзяўчына згубіла адзін крышталёвы пантофлік, і прынц пяшчотна падабраў яго. Без карэты, без лёкаеў, задыханая, Папялушка прыбегла дамоў. Яна зноў была ў сваім агідным адзенні, і з усяе пышнасці ў яе застаўся толькі адзін пантофлік – такі самы, як той, што яна згубіла.

У брамнікаў запыталіся, ці не бачылі яны, каб з палаца выходзіла прынцэса. Але яны адказалі, што бачылі толькі нейкую вельмі неахайную дзяўчыну, падобную больш да сялянкі, чым да паненкі.

Калі сёстры вярнуліся з балю, Папялушка спытала, ці добра яны прабавілі час і ці была на балі тая прыгожая пані? Сёстры адказалі, што была, але калі гадзіннік адбіў поўнач, яна так хутка пабегла, што нават згубіла адзін крышталёвы пантофлік, такі прыгожы, што ва ўсім свеце такіх ні ў кога няма. Сёстры сказалі, што сын караля падабраў той пантофлік і да канца балю ўжо толькі і глядзеў на яго, таму што, вядома ж, вельмі закахаўся ў чароўную ўладальніцу гэтага пантофліка.

Яны казалі праўду, бо праз некалькі дзён сын караля пры ўсім народзе абвясціў, што ажэніцца з той, каму гэты пантофлік будзе акурат па назе. Спачатку яго паперамервалі ўсе прынцэсы, потым графіні і ўся дворня, але ўсё дарма. Нікому ён не падыходзіў.

Прынеслі яго і да дзвюх сясцёр. Як толькі яны не высільваліся, каб усунуць нагу ў пантофлік! Ды нічога ў іх не выйшла. Папялушка пазнала свой пантофлік і, з усмешкай гледзячы на сясцёр, сказала:

– Дайце, я памераю, ці не падыдзе ён мне?

Сёстры пачалі смяяцца і кпіць з дзяўчыны. Але прыдворны, які насіў пантофлік, зірнуўшы на Папялушку, заўважыў, што яна прыгожая, і сказаў, што яна мае рацыю, бо ён атрымаў загад даваць мерыць пантофлік усім дзяўчатам. Ён запрасіў Папялушку сесці і паднёс пантофлік да яе ножкі. І тут усе ўбачылі, што пантофлік лёгка надзеўся на нагу і аказаўся ў самы акурат, нібыта быў на яе зроблены. Здзіўленне ў сясцёр яшчэ больш павялічылася, калі Папялушка дастала з кішэні другі такі самы пантофлік і надзела яго на другую нагу. У гэты момант у пакой увайшла хросная. Яна дакранулася да Папялушчынага адзення чарадзейнаю палачкай, і яно зрабілася яшчэ прыгажэйшым, чым ранейшыя два разы.

І тады нарэшце сёстры прызналі ў ёй тую прыгожую прынцэсу, якую бачылі на балі. Яны кінуліся Папялушцы ў ногі, пачалі перапрашаць за ўсё дрэннае, што ёй даводзілася ад іх цярпець. Але Папялушка папрасіла іх падняцца і сказала, што ўсё шчыра ім даравала і хоча, каб яны заўсёды яе любілі.

Ва ўсім гэтым прыгожым убранні Папялушку правялі да маладога прынца. Прынцу яна здалася яшчэ прыгажэйшаю, чым раней, і праз некалькі дзён яны пажаніліся. Папялушка, у якой дабрыні было не меней, чым прыгажосці, запрасіла сясцёр жыць у палац і ў той самы дзень ажаніла іх з двума знатнымі панамі з каралеўскай дворні.

## Мараль

Краса ў дзяўчат – вялікі скарб, бясспрэчна,
Мы захапляцца ёй не стомімся ніколі,
Ды ветлівасць усё ж каштуе болей
І большую цану мець будзе вечна.
Таму і хросная дзяўчыну навучала
Быць далікатнай, выпраўляючы на баль,
Ды так яе пры гэтым прыбірала,
Што стала каралеўнаю яна.
Адсюль – мараль:
Хто хоча схільнасці ў любага дабіцца,
Адной красою дасягне не многа;
Тут ветласць – вось дар чараўніцы,
Бо з ёй магчыма ўсё, а без яе – нічога.

## Другая мараль

Вядома, што зусім няблага,
Калі ў вас ёсць і розум, і развага,
І працавітасць, і калі вы не без роду, –
Тут трэба толькі шанаваць прыроду,
Што падарыла вам такую перавагу.
І ўсё ж, мой дружа, будзе мала плёну
Ва ўсім, што б вы не мелі, – будзе ўсё дарма
І поспеху не дасць ў жыцці штодзённым,
Калі ў вас хроснага ці хроснае няма.

## Чубаты Рыкэ

Жыла сабе адна каралева, і нарадзіла яна такога брыдкага і выродлівага сына, што многія засумняваліся нават, ці чалавек гэта ўвогуле? Але чараўніца, якая прыехала на радзіны, супакоіла ўсіх і запэўніла, што хлопчык вырасце і будзе прывабны, бо ў яго будзе вельмі вялікі розум. Апроч гэтага яна сказала, што дзякуючы яе дару, ён здолее сам даць столькі ж розуму той, каго моцна пакахае. Усё гэта трошкі суцешыла бедную каралеву, якая вельмі журылася, што ў яе нарадзілася такое агіднае дзіця.

І праўда, ледзьве малое навучылася гаварыць, як адразу пачало казаць вельмі слушныя рэчы, і ўсе яго ўчынкі былі такія разважныя, што можна было толькі дзівіцца. Я забыўся, дарэчы, сказаць, што хлопчык нарадзіўся з невялічкім чубком, і таму яму далі мянушку – Чубаты Рыкэ, бо Рыкэ было прозвішча ў іх сям'і.

Праз сем ці восем гадоў у каралевы аднаго суседняга каралеўства нарадзіліся дзве дачкі. Першая была прыгажэйшая за сонейка, і каралева так гэтаму радавалася, што ўсе нават спалохаліся, каб ад вялікай радасці яна зусім не страціла розум. На радзіны да каралевы прыехала тая самая чараўніца, што была пры нараджэнні Рыкэ, і, каб трошкі паменшыць каралевіну радасць, сказала, што ў маленькай прынцэсы не будзе ані кропелькі розуму і што наколькі яна будзе прыгожая, настолькі ж і дурная. Гэтыя словы вельмі засмуцілі каралеву, але неўзабаве яна засмуцілася яшчэ больш, бо другая дачка, якую яна нарадзіла, была вельмі брыдкая.

– Не бядуйце, Вашамосць, – сказала ёй чараўніца. – У вашай дачкі будуць іншыя перавагі: яна будзе такая разумная, што ніхто не заўважыць, што ёй не стае прыгажосці.

– Дай божа, – адказала каралева. – Але ці няможна даць хоць бы крышачку розуму маёй старэйшай? Яна такая прыгожая!

– На жаль, Вашамосць, з розумам я ніяк не магу ёй дапамагчы, – сказала чараўніца, – але затое, што да яе прыгажосці, я здольная зрабіць усё. І каб вас задаволіць, я падару ёй здольнасць надзяляць прыгажосцю кожнага, хто ёй спадабаецца.

Час ішоў, прынцэсы раслі, і іх вартасці большалі разам з імі. Паўсюль ішла пагалоска пра хараство старэйшай ды розум малодшай. З часам, праўда, павялічваліся і заганы дзяўчат. Малодшая на вачах рабілася ўсё больш непрыгожая, а старэйшая ўсё болей дурнела. Калі ў яе што-небудзь пыталіся, яна ці маўчала ўвогуле, ці вярзла нейкую лухту. Апроч таго яна была такая няўклюда, што не магла расставіць на камінку нават чатыры статуэткі, каб адну не пабіць, а калі піла са шклянкі, дык заўсёды палавіну вылівала на сябе.

Хоць прыгажосць і вялікае шчасце для кожнай маладой

дзяўчыны, але госці ўсё-такі больш любілі быць побач з малодшай, чым са старэйшаю. Спачатку, праўда, усе кідаліся да прыгажэйшай: паглядзець на яе, палюбавацца яе прыгажосцю, але хутка вярталіся да разумнейшай, бо з ёю было прыемна гутарыць пра сама розныя рэчы. І не дзіва, што не праходзіла і чвэрці гадзіны, як побач са старэйшай нікога ўжо не было, і ўсе збіраліся вакол малодшай. Старэйшая дачка хоць і была вельмі дурная, але добра заўважала гэта і не пашкадавала б усёй сваёй прыгажосці, каб мець хоць бы палову розуму сваёй малодшай сястры. Маці-каралева была жанчына разважная, але і яна часам не магла ўтрымацца, каб не папракнуць дачку за яе бязглуздасць. А беднай прынцэсе рабілася ад гэтага так горка, што яна ўжо, здавалася, гатовая была лепей памерці.

Аднойчы, калі прынцэса пайшла ў лес, каб там на самоце пабедаваць ад свайго няшчасця, да яе падышоў нейкі чалавек. Ён быў вельмі непрыгожы і брыдкі, хоць быў апрануты ў сама раскошныя строі. Гэта быў прынц Чубаты Рыкэ. Некалі ён убачыў прынцэсін партрэт і закахаўся ў яе без памяці. І тады ён вырашыў пакінуць бацькоўскае каралеўства і на свае вочы ўбачыць прынцэсу, каб пагутарыць з ёю. Узрадаваны, што сустрэў дзяўчыну адну, ён загаварыў з ёю з усёй пашанай і ветлівасцю, на якія толькі быў здольны. Але пасля звычайных лёстак, якія кажуць у такіх выпадках, прынц заўважыў, што твар у дзяўчыны вельмі журботны. І тады ён сказаў:

– Дарагая прынцэса, я не разумею, што можа засмучаць такую чароўную дзяўчыну, як вы – бо, хоць я і магу пахваліцца, што бачыў нямала прыгажунь, але я не бачыў ніводнай, чыя прыгажосць параўналася б з вашай.

– Пан вельмі ласкавы, – адказала прынцэса і змоўкла.

– Прыгажосць настолькі каштоўная рэч, – зноў сказаў Чубаты Рыкэ, – што здольная замяніць сабою ўсё астатняе. Таго, хто яе мае, нішто, на мой розум, засмучаць не можа.

– А мне, наадварот, хацелася б лепей быць такою брыдкаю, але і такою разумнаю, як вы, – адказала прынцэса, – чым такою як я – прыгожай і такою дурною.

– Але нішто, дарагая прынцэса, гэтак не сведчыць пра розум, як думка, што яго не стае. Розум якраз у тым і ёсць, што чым больш яго маеш, тым болей думаеш, што яго мала.

– Не ведаю, – адказала прынцэса. – Я ведаю толькі, што я вельмі дурная. Гэта мяне й гняце.

– Але, прынцэса, калі толькі гэта вас засмучае, то я магу лёгка пакласці канец вашым пакутам.

– Як? – запыталася прынцэса.

– У мяне ёсць дар, – адказаў Чубаты Рыкэ, – і дзякуючы гэтаму

дару я магу надзяліць сама вялікім розумам тую, каго пакахаю болей за ўсіх. А таму, што болей за ўсіх я кахаю вас, то цяпер толькі ад вас усё і залежыць. Досыць вам пагадзіцца пайсці за мяне замуж, і вы адразу зробіцеся разумнаю.

Прынцэса вельмі сумелася, пачуўшы гэтыя словы, і нічога не змагла адказаць.

– Відаць, мая прапанова вас трошкі бянтэжыць, – сказаў Чубаты Рыкэ, – і гэта не дзіўна. Але, каб вы маглі ўсё добра ўзважыць, я даю вам цэлы год.

У прынцэсы быў такі малы розум, і ёй так карцела хутчэй паразумнець, што ёй здалося, што цэлы год чакаць яна не вытрывае ніколі, і яна адразу згадзілася на прынцаву прапанову. Не паспела яна паабяцаць, што налета, роўна праз год, выйдзе за Чубатага Рыкэ замуж, як адразу адчула сябе зусім іншаю – цяпер яна вельмі лёгка магла казаць усё, што хацела, і ў яе словах адчувалася разважнасць і натуральнасць. Яна адразу павяла з Чубатым Рыкз лёгкую і далікатную размову і з такім бляскам выявіла свае новыя здольнасці, што Чубаты Рыкэ ўжо быў падумаў, ці не даў ён прынцэсе болей розуму, чым пакінуў сабе.

Калі ж прынцэса вярнулася ў палац, прыдворныя не маглі зразумець, што здарылася і чым растлумачыць такую нечаканую і незвычайную змену, бо як раней усе смяяліся з прынцэсіных бязглуздых і недарэчных думак, так цяпер усіх здзіўлялі яе дасціпныя і разумныя разважанні. Усе так гэтаму ўзрадваліся, што і сказаць немагчыма. Толькі малодшая сястра была не вельмі радая: цяпер у яе не было ранейшае перавагі над старэйшай сястрой і побач з ёю яна выглядала толькі яшчэ больш непрыгожаю.

Кароль пачаў цяпер прыслухоўвацца да меркаванняў старэйшай дачкі і часам, нават, хадзіў да яе ў пакой, каб спытаць парады. Пагалоска пра гэтую перамену хутка абляцела ўсе суседнія каралеўствы. Адусюль пачалі з'язджацца маладыя прынцы, і ўсе стараліся дамагчыся прынцэсінага кахання, усе прасілі ў яе рукі. Але ніхто не здаваўся прынцэсе сапраўды разумным. Яна ўважліва слухала кожнага, але нікому нічога не абяцала. Але аднойчы прыехаў у палац прынц, які быў такі багаты, такі дужы, такі разумны і такі прыгожы, што прынцэса не змагла не зачаравацца ім. Бацька-кароль заўважыў гэта і сказаў, што пара ўжо ёй абраць сабе жаніха: няхай ім будзе той, каго яна сама назаве. Але ж чым чалавек разумнейшы, тым цяжэй яму рашыцца ў такой складанае справе. І таму, падзякаваўшы бацьку, прынцэса папрасіла даць ёй часу падумаць.

І вось, выправіўшыся неўзабаве на шпацыр, каб паразважаць у цішы, што ёй рабіць, яна выпадкова зайшла ў той самы лес, дзе некалі спаткала Чубатага Рыкэ. Яна ішла ў глыбокім задуменні – і

раптам пачула пад нагамі нейкі шоргат, быццам нехта бегаў ды мітусіўся туды-сюды пад зямлёй. Прынцэса прыслухалася ўважлівей і пачула, як нечый голас сказаў: «Гэй, нясі сюды гэты рондаль». – «Ану, падай мне той саганок», – сказаў другі. «Падкінь дроў у вогнішча», – пачуўся трэці. У тую ж хвіліну зямля расчынілася, і прынцэса ўбачыла каля самых сваіх ног агромністую кухню, у якой было поўна кухараў, кухарчукоў і сама рознай абслугі, якая гатавала стравы на нейкі святочны банкет. З кухні выйшлі чалавек дваццаць ці трыццаць, усе ў лісіных шапках і з пожагамі ў руках. Яны паселі вакол вельмі доўгага стала, што стаяў пасярод лясных прысадаў, заспявалі хвацкую песню і пачалі шпігаваць мяса.

Прынцэса вельмі здзівілася і спытала, каму яны гатуюць усе гэтыя стравы.

– О, паненка, – адказаў ёй сама важны спаміж кухараў, – мы гатуем усё гэта нашаму прынцу – Чубатаму Рыкэ, заўтра ў яго вяселле.

Прынцэса здзівілася яшчэ больш, ды раптам прыгадала, што роўна год назад, у такі самы дзень паабяцала выйсці за прынца замуж. Успомніўшы гэта, яна ледзь не самлела. Яна ж зусім забылася на сваё абяцанне: калі яна давала яго, яна была такая дурнічка, што цяпер, набыўшы дзякуючы Чубатаму Рыкэ сапраўдны розум, нават не хацела ўспамінаць пра свае ранейшыя глупствы.

Яна пайшла па лесе далей, але не паспела ступіць і трыццаці крокаў, як перад ёй узнік Чубаты Рыкэ. Ён быў у раскошным адзенні і меў вельмі ўрачысты выгляд, па якім адразу можна было здагадацца, што ён рыхтуецца да вяселля.

– Бачыце, прынцэса, – сказаў ён, – я цвёрда трымаю сваё слова, і не сумняваюся, што вы таксама прыйшлі сюды, каб выканаць сваё абяцанне. Калі вы аддасцё мне вашу руку, вы зробіце мяне найшчаслівейшым чалавекам у свеце.

– Шчыра кажучы, – адказала прынцэса, – я нічога яшчэ не вырашыла і наўрад ці змагу прыняць рашэнне, якое вы ад мяне чакаеце.

– Вы вельмі здзіўляеце мяне, прынцэса, – ледзь не крыкнуў Чубаты Рыкэ.

– Ахвотна вам веру, – сказала прынцэса. – І мне, вядома, давялося б нялёгка, каб перада мною быў чалавек неразумны і грубы. Такі ўвесь час паўтараў бы адно: «Слова прынцэсы – закон, вы павінны выйсці за мяне замуж, бо вы абяцалі». Але ж я гутару з чалавекам разумным і выхаваным і ўпэўненая, што ён зразумее прычыну. Вы памятаеце, што нават калі я была дурнічка, я не магла адважыцца пайсці за вас замуж. Як жа, па-вашаму, я магу рашыцца на гэта цяпер, калі ў мяне ёсць розум? Вы самі мне яго падаравалі, і цяпер я зрабілася яшчэ болей патрабавальная да

людзей. Не, прынцу, калі вы сапраўды хацелі са мной ажаніцца, то дарма пазбавілі мяне дурасці і навучылі разбірацца ва ўсім.

– Але ж, прынцэса, – сказаў Чубаты Рыкэ, – калі вы кажаце самі, што чалавек неразумны мог бы вас папракаць, што вы не трымаеце слова, то чаму, па-вашаму, таго ж самага не магу зрабіць я? Тым больш, што гаворка ідзе пра шчасце ўсяго майго жыцця! Ці ж справядліва, каб разумны чалавек меў меней правоў, чым неразумны? І ці можаце гэта казаць вы – тая, каму так хацелася быць разумнай, ды яшчэ цяпер, калі вы атрымалі столькі розуму? Але вернемся, з вашага дазволу, да галоўнага пытання. Скажыце, ці ёсць што-небудзь яшчэ, апроч маёй выродлівасці, што вам ува мне не падабаецца? Можа, вы незадаволены маім родам, розумам, характарам ці выхаваннем?

– Ані, – азвалася прынцэса, – усё гэта мне ў вас падабаецца.

– Значыць, я змагу быць шчаслівы, – сказаў Чубаты Рыкэ, – бо вы здольная зрабіць мяне найпрыгажэйшым юнаком у свеце.

– Але ж як я магу зрабіць гэта? – здзівілася прынцэса.

– Гэта здарыцца тады, калі вы пакахаеце мяне настолькі, што вам самой захочацца, каб гэта здарылася, – адказаў Чубаты Рыкэ. – І калі вы сумняваецеся ў гэтым, дык ведайце: тая самая чараўніца, што была пры маім нараджэнні і надзяліла мяне дарам зрабіць разумнай абраную мною дзяўчыну, надзяліла дарам і вас, каб вы маглі зрабіць прыгожым чалавека, якога вы пакахаеце.

– Калі гэта праўда, – сказала прынцэса, – то я ўсім сэрцам хачу, каб вы зрабіліся найпрыгажэйшым і найпрыемнейшым прынцам у свеце. І калі ў мяне ёсць такі дар, то я ўвесь яго аддаю вам.

І не паспела прынцэса прамовіць гэтых словаў, як раптам, у яе на вачах, Чубаты Рыкэ ператварыўся ў сама прыгожага юнака, якога ёй даводзілася бачыць. Праўда, людзі кажуць, што чараўніца тут была зусім ні пры чым і ўсё гэта здарылася дзякуючы каханню: прынцэса, маўляў, адзначыўшы сталасць характару свайго каханага, яго сціпласць і добрыя якасці яго душы, а таксама вялікі розум, проста перастала заўважаць яго брыдкае цела і непрыгожы твар. Горб здаваўся ёй цяпер проста невялікай сутуласцю, якая нават надавала прынцу трошкі важнасці, а яго кульгавасць яна лічыла за пацешную звычку крыху нахіляцца пры хадзе, і гэта яе нават зачароўвала. Яго вочы, хоць і былі касавурыя, але праз гэта здаваліся ёй толькі яшчэ болей бліскучымі, дый наогул мужаву касавурасць прынцэса лічыла за адзнаку незвычайнага кахання, а ў яго тоўстым чырвоным носе ёй бачылася нешта ваяўнічае і адважнае.

Як бы там ні было, прынцэса адразу паабяцала Рыкэ выйсці за яго замуж, калі на тое будзе дазвол ейнага бацькі-караля. Калі ж кароль даведаўся, як высока яго дачка шануе Чубатага Рыкэ, пра

якога ён, зрэшты, і сам чуў, як пра прынца разумнага і кемлівага, ён з радасцю згадзіўся, каб той стаў яго зяцем. На другі дзень, як і меркаваў Чубаты Рыкэ, адбылося вяселле – балазе, ён загадзя паклапаціўся загадаць, каб усё было гатова.

**Мараль**

Відаць адразу – гэта казка не пустая,
Яна ў праўдзівасці з жыццём зраўнацца можа,
Бо ўсё ў тым, што кахаем мы – прыгожа,
І ўсё, што мы кахаем – розум мае.

**Другая мараль**

Рэч некаторую, бывае,
Прырода фарбамі такімі надзяляе,
Якіх мастацтву не стварыць ніколі.
Але і хараство нам не расчуліць сэрца,
Пакуль каханне да яго не дакранецца;
А ўжо кране разок – і гэтага даволі.

## Малое Пальчанё

Жылі аднончы дрывасек з дрывасечыхай, і мелі яны сямёра дзяцей, ды ўсё хлопцаў. Старэйшаму было дзесяць гадоў, а малодшаму – сем. Хто-небудзь, напэўна, здзівіцца, што за такі кароткі час у дрывасека нарадзілася столькі дзяцей, але разгадка ў тым, што яго жонка добра ведала справу і штораз прыносіла яму не менш як двойню.

Людзі яны былі бедныя, і сямёра дзяцей для іх былі вялікім цяжарам, бо, вядома, малыя не ўмелі яшчэ зарабіць на хлеб. Засмучала бацькоў і тое, што меншы быў надта кволы і амаль увесь час маўчаў. Яны нават думалі, што ён крыху дурнаваты. Але за дурасць яны лічылі тое, што напраўду было адзнакай кемлівасці і развагі. Ростам хлопец быў такі маленькі, што калі нарадзіўся на свет, увогуле быў не большы за палец; таму і далі яму такую мянушку – Малое Пальчанё.

У сям'і з небаракі ўсе кпілі і, калі што здаралася, вінавацілі толькі яго. Але сярод братоў ён быў сама кемлівы і сама разумны: хоць гаварыў ён мала, затое слухаў шмат.

І вось настаў аднойчы вельмі цяжкі год, і быў такі вялікі голад, што бедныя бацькі вырашылі пазбавіцца ад сваіх дзяцей. Увечары, калі дзеці ўжо спалі, селі яны каля агню, і дрывасек з болем у сэрцы сказаў жонцы:

– Сама бачыш, не пракарміць нам нашых дзетак. Не змагу я глядзець, як яны пачнуць паміраць адно за адным з голаду. Вось я і вырашыў завесці іх заўтра ў лес ды там кінуць. Зрабіць гэта будзе няцяжка: як пачнуць яны дурэць ды забаўляцца, мы ціхутка ўцячом, і яны нічога не заўважаць.

– Ах! – крыкнула дрывасечыха. – Як ты можаш так казаць! Каб мы, сваімі рукамі, завялі ў лес ды кінулі нашых дзетак!

Дарма муж даводзіў, у якой галечы яны жывуць: жонка і слухаць яго не хацела. Хоць бедная, але ж яна была іхняя маці.

Але нарэшце, разважыўшы, як балюча будзе глядзець на бедных сыночкаў, калі яны пачнуць паміраць з голаду, кабета згадзілася з мужам і ў слязах пайшла спаць.

Усё, пра што яны гаманілі, падслухаў іх меншы сын, Малое Пальчанё. Лежачы ў ложку, ён пачуў, што бацькі гутараць пра нейкія справы і, ціхенька ўстаўшы, непрыкметна шмыгнуў пад услон, на якім сядзеў бацька. Потым гэтак жа непрыкметна ён зноў лёг у ложак, але не спаў ужо ўсю ноч, разважаючы, што рабіць.

Калі на дворы пачало брацца на дзень, ён устаў, пабег да ручая і, назбіраўшы поўныя кішэні белых каменьчыкаў, вярнуўся дахаты.

Неўзабаве ўся сям'я выправілася ў дарогу. Малое Пальчанё

нічога не сказаў сваім братам. Доўга яны ішлі ці не, але нарэшце зайшлі ў такі густы лес, што за дзесяць крокаў тут адзін аднаго не мог убачыць. Дрывасек пачаў сячы дровы, а дзеці збіралі галлё і складалі яго ў вязкі. Убачыўшы, што дзеці занятыя, бацька і маці неўпрыкмет адышлі ды кінуліся наўцёкі па маленькай сцяжынцы.

Калі дзеці заўважылі, што засталіся адны, яны з усяе сілы загаласілі. І толькі меншы брат, Малое Пальчанё, не плакаў: ён добра ведаў, як трэба вяртацца дадому: дарогай, пакуль яны ішлі, ён раскідваў белыя каменьчыкі, што нёс у кішэнях. Даўшы братам уволю пабедаваць, ён сказаў:

– Не бойцеся, браты. Бацька і маці кінулі нас, але я прывяду вас дадому. Хадземце за мной.

Браты пайшлі за ім, і Малое Пальчанё вывеў іх да бацькавай хаты па той самай дарозе, якою яны прыйшлі ў лес. Але хлопчыкі не адважыліся адразу ўвайсці. Яны сталі каля дзвярэй і пачалі прыслухоўвацца, пра што гамоняць бацькі.

Якраз тым часам, як дрывасек з дрывасечыхай вярнуліся з лесу, пан, якому належала вёска, прыслаў ім дзесяць экю. Ён так даўно быў ім вінен, што бедныя сяляне і не спадзяваліся ўжо, што ён іх аддасць. Але цяпер, калі яны ледзь не паміралі ад голаду, грошы ўратавалі ім жыццё. Дрывасек адразу паслаў жонку ў ятку, і яна, доўга не еўшы, накупіла мяса ажно ў тры разы болей, чым ім трэба было на дваіх. Калі яны добра падсілкаваліся, кабета сказала:

– Ах, божачкі! Дзе ж цяпер нашы бедныя дзеткі? Як бы яны добра паелі, у нас жа столькі яшчэ засталося! Гэта ты, Гіём, захацеў кінуць іх у лесе. А я казала табе: будзем потым пакутаваць. Ах, небаракі, што яны робяць цяпер у дрымучым лесе? Ах, вох, напэўна, іх ужо задралі ваўкі! І якім жа трэба быць жорсткім чалавекам, каб кінуць сваіх дзяцей!

Яна разоў дваццаць паўтарыла, што яны будуць пакутаваць і што яна гэта прадказвала, калі дрывасек нарэшце не сцярпеў і прыстрашыў жонку, што зараз паб'е, калі яна не змоўкне. Дрывасеку і так было цяжка на сэрцы, і ён, мабыць, сам дакараў сябе яшчэ болей, чым жонка, ды вельмі ўжо яна яму назаляла. У яго ж быў такі самы характар, як у большасці мужчын: ён вельмі любіў, калі жанчыны казалі слушна, але цярпець не мог, калі яны казалі слушна заўсёды.

А дрывасечыха толькі яшчэ мацней заплакала:

– Ах, божачка! Дзе ж гэта цяпер мае дзеткі, бедныя мае сыночкі!

Адзін раз яна крыкнула так гучна, што дзеці, якія стаялі каля дзвярэй, пачулі матчыны словы і разам загаласілі:

– Мы тут! Мы тут!

Маці кінулася да дзвярэй, адчыніла іх і моцна сціснула дзяцей у абдымках.

– Якая радасць, што вы зноў са мной, мілыя мае дзеткі! – сказала яна. – Вы ж, напэўна, стаміліся і вельмі галодныя. Ай-ай, П'еро, як ты ўпэцкаўся! Ану, хадзі, я цябе пачышчу.

П'еро быў старэйшы сын, і дрывасечыха любіла яго болей за іншых, таму што ён быў рыжы, як і маці.

Хлопчыкі селі да стала і пачалі ўплятаць з такім смакам, што бацька з маці нагледзецца не маглі. За вячэрай малыя расказалі бацькам, якога нацярпеліся ў лесе страху, і, расказваючы, увесь час перабівалі адно аднаго. Добрыя сяляне вельмі радаваліся, што іх дзеці зноў разам з імі, ды радасці гэтай хапіла роўна настолькі, на колькі хапіла дзесяці экю. А калі грошы скончыліся, бацькоў зноў апанаваў вялікі смутак, і яны вырашылі зноў завесці дзяцей у лес. Але каб не зрабіць памылкі другі раз, яны дамовіліся завесці іх яшчэ далей.

І ўсё ж, як ні сакрэтнічалі дрывасек з дрывасечыхай, а Малое Пальчанё, іх меншы сын, усё роўна ўсё пачуў і зноў прыдумаў, як яму выкруціцца. Рана раніцай ён устаў і хацеў быў пайсці на ручай па каменьчыкі, але нічога ў яго не выйшла: дзверы ў хаце былі зачыненыя аж на два павароты. Бедны хлопец не ведаў, што рабіць. Але за снеданнем, калі дрывасечыха дала сынам па лусце хлеба, ён вырашыў, і замест каменьчыкаў будзе кідаць паўсюль, дзе яны будуць ісці, хлебныя крошкі. З тым ён і схаваў свой кавалак у кішэню.

Бацька і маці завялі дзяцей у сама глухі і змрочны кут лесу, а самі – збочылі на кружную сцежку і ўцяклі. Але Малое Пальчанё гэта не надта засмуціла: хлопец думаў, што па хлебных крошках знайсці дарогу дадому будзе даволі лёгка. Але як ён здзівіўся, калі не знайшоў ніводнага драбочку! Усё падзяўблі лясныя птушкі.

Хлопчыкі зусім разгубіліся. Чым далей яны ішлі, тым болей блудзілі і яшчэ глыбей заходзілі ў лес. Ім здавалася, што з усіх бакоў выюць ваўкі, падкрадаючыся, каб іх з'есці. Ад страху яны маўчалі, як вады ў рот набраўшы, і баяліся нават павярнуць галаву. Раптам пайшоў моцны дождж, і малыя прамоклі аж да рубчыка. На кожным кроку яны слізгаліся, падалі ў гразь, уставалі ўсе перапэцканыя і не ведалі, куды дзець брудныя рукі.

Нарэшце Малое Пальчанё вырашыў узлезці на высокае дрэва і паглядзець, ці не відаць чаго-небудзь зверху. Ён зірнуў ва ўсе бакі і вельмі далёка, аж на самым ускрайку лесу заўважыў маленькі агеньчык. Гэта вельмі ўзрадавала яго. Ён хуценька злез з дрэва, але апынуўшыся зноў на зямлі, агеньчыка ўжо не бачыў. Гэта яго крыху засмуціла. І ўсё ж браты вырашылі пайсці ў тым кірунку, дзе, на іх думку, павінна была стаяць хатка, у якой гарэла святло.

Доўга ці мала яны ішлі, ды нарэшце выйшлі на ўзлессе і тут зноў убачылі той самы агеньчык.

Яшчэ не раз яны хваляваліся, калі агеньчык раптам знікаў. А гэта здаралася кожны раз, як хлопчыкі спускаліся ў лагчыну, але неўзабаве яны падышлі да хаткі, за акном якой гарэла маленькая свечка.

Яны пастукаліся ў дзверы, і ім адчыніла кабета. Яна запыталася, што ім трэба і што яны тут робяць так позна. Малое Пальчанё сказаў, што яны бедныя дзеці, што яны заблудзіліся і ласкава просяць пусціць іх на ноч. Убачыўшы перад сабой такіх мілых дзетак, добрая жанчына заплакала.

– Ах, бедныя вы мае! – сказала яна. – Куды ж вы прыйшлі? Хіба вы не ведаеце, што тут жыве людаед, які есць дзяцей?

– А што ж нам рабіць, пані, – адказаў Малое Пальчанё, які, як і браты, аж калаціўся ад страху, – калі вы не згодзіцеся нас прытуліць, нас з'ядуць у лесе ваўкі. Дык хай ужо лепей нас з'есць людаед. Можа, вы папросіце яго, і ён пашкадуе нас?

Людаедава жонка падумала, што, можа, ёй сапраўды ўдасца схаваць дзяцей ад мужа да заўтрашняй раніцы, і ўпусціўшы іх у хату, пасадзіла грэцца каля агню, на якім людаеду на вячэру смажыўся і цэлы баран.

Калі яны крыху абагрэліся, у дзверы нехта моцна пагрукаў. Гэта вяртаўся людаед. Ягоная жонка адразу загадала хлопчыкам хутчэй лезці пад ложак, а сама пайшла адчыняць. Ледзь пераступіўшы парог, людаед спытаў, ці гатовая вячэра ды ці прынеслі віна і адразу сеў да стала. Баран, які вісеў над агнём, быў яшчэ ўвесь у крыві, але ад гэтага здаваўся людаеду яшчэ смачнейшым. Ён пачаў прынюхвацца то направа, то налева і раптам сказаў, што чуе чалавечы пах.

– Мусіць, гэта цялё, якое я толькі што разабрала, – адказала яму жонка.

– Ды якое цялё! Я кажу табе: пахне чалавечынай! – паўтарыў людаед і падазрона зірнуў на жонку. – Нешта тут не так…

З гэтымі словамі ён устаў з-за стала і пашыбаваў да ложка.

– Ага! – крыкнуў ён. – Дык вось як ты, шэльма, хацела мяне ашукаць! Не ведаю, чаму я цябе саму дагэтуль не з'еў! Тваё шчасце, што ты такая кашчавая ды старая. Але я рады, што тут такая добрая здабыча: будзе чым пачаставаць маіх прыяцеляў-людаедаў. Яны якраз павінны завітаць да мяне гэтымі днямі.

І ён аднаго за адным павыцягваў хлопцаў з-пад ложка. Напалоханыя дзеці ўкленчылі перад людаедам і пачалі прасіць у яго прабачэння, але гэта быў сама люты людаед на свеце. Ён нават не думаў літавацца і ўжо глытаў хлопчыкаў вачыма, вясёла кажучы жонцы, што з іх выйдзе смачнае рагу, калі яна прыгатуе

добрую поліўку. Ён прынёс доўгі нож і пачаў яго вастрыць на вялізным брусе на вачах у бедных дзяцей. Потым, схапіўшы аднаго хлопца, ён ужо сабраўся яго зарэзаць, і тут жонка сказала яму:

– Што гэта вы надумаліся на ноч гледзячы? Ці ж заўтра часу не будзе?

– Сціхні! – адказаў людаед. – Калі я іх сёння запраўлю, дык заўтра яны будуць толькі смачнейшыя.

– Але ж у вас яшчэ столькі мяса, – сказала жонка, – і цяля, і два бараны, і палавіна парсючка!

– Ну, добра, – пагадзіўся людаед, – дай ім уволю паесці, каб не схуднелі, ды вядзі хутчэй спаць.

Добрая жанчына вельмі ўзрадавалася. Яна падала хлопчыкам смачную вячэру, але яны былі такія напалоханыя, што зусім не маглі есці. А людаед пачаў піць віно ды ўсё цешыўся, што яму цяпер ёсць чым пачаставаць сваіх сяброў.

Было ў людаеда сем маленькіх дачок. Усе яны былі таўсмаценькія ды чырванашчокія, бо, як і бацька, заўсёды елі свежае мяса. Але вочкі ў іх былі шэрыя, круглыя, насы кручкаватыя, а раты вялікія, з доўгімі, рэдкімі і вельмі вострымі зубамі. Нораў яны мелі яшчэ не надта злы, але часам ужо, здаралася, кусалі дзяцей, каб пасмактаць з іх кроў.

Дачок рана паклалі спаць, і ўсе яны ляжалі ў адным вялікім ложку, а на галаве ў кожнай была залатая карона. У пакоі быў яшчэ адзін такі самы ложак, і на ім людаедава жонка паклала спаць семярых хлопчыкаў, а сама пайшла ў спальню да мужа.

Малое Пальчанё ўбачыў, што на людаедавых дочках залатыя кароны, і, баючыся, каб людаед не перадумаў ды не прыйшоў зарэзаць яго з братамі пасярод ночы, ціхенька ўстаў, зняў з братоў начныя чапцы і надзеў іх на галовы людаедавым дочкам. А залатыя кароны надзеў на сябе і братоў, каб людаед у цемры ўсё пераблытаў і палічыў іх за сваіх дачок, а сваіх дачок – за хлопцаў, якіх збіраўся зарэзаць.

Усё ўрэшце так і выйшла: апоўначы людаед прачнуўся і пашкадаваў, што адклаў на заўтра тое, што мог бы зрабіць адразу. Ён жвава саскочыў з ложка і, схапіўшы вялізны нож, сказаў:

– Ану, паглядзім, што там робяць нашыя галубочкі. І не будзем болей адцягваць справы.

Навобмацак ён падняўся ў пакой да сваіх дачок і падышоў да ложка, на якім ляжалі хлопчыкі. З усіх братоў не спаў толькі Малое Пальчанё. Ён вельмі спалохаўся, калі людаед пачаў абмацваць яго галаву рукой. Але намацаўшы на хлопцах залатыя кароны, людаед падумаў, што гэта ягоныя дочкі, і сказаў:

– Ну і ну! Вось дык штуку я ледзь не ўпар! Відаць, сапраўды я выпіў учора лішку.

Потым ён падышоў да ложка, на якім ляжалі ягоныя дочкі, і, адчуўшы пад рукой начныя чапцы, крыкнуў:

– Ага! Вось вы дзе, шалапуты! Дык папрацуем жа ў ахвотку!

І з гэтымі словамі ён, не вагаючыся, парэзаў усіх дачок. Вельмі задаволены тым, што зрабіў, ён вярнуўся ў спальню і спакойна лёг спаць побач з жонкай.

Як толькі Малое Пальчанё пачуў, што людаед захроп, ён разбудзіў братоў і загадаў ім хутчэй апранацца і йсці за ім. Яны ціха спусціліся ў сад, пераскочылі цераз мураваную агароджу і кінуліся наўцёкі. Ад страху яны беглі ўсю ноч, самі не ведаючы куды.

А людаед прачнуўся раніцай і сказаў жонцы:

– Ідзі наверх ды прыбяры галубочкаў, што заляцелі да нас учора.

Людаедзіху вельмі здзівіла мужава дабрыня. Яна не здагадвалася, што ён меў на ўвазе, кажучы прыбраць гэтых хлопцаў. Яна думала, што ён загадвае добра ды чыста іх апрануць. Добрая кабета паднялася наверх і… аслупянела ад здзіўлення, убачыўшы, што сем яе дачушак ляжаць зарэзаныя ў крыві.

Канечне, яна адразу самлела, бо гэта першае, што робяць амаль усе жанчыны ў такіх выпадках. Тым часам людаед пачаў непакоіцца, чаму жонка, якой ён даручыў справу, так доўга корпаецца. І ён сам падняўся дапамагчы. Але як жа ён быў здзіўлены, калі ўбачыў такую жахлівую карціну!

– А што ж я нарабіў! – залямантаваў ён. – А гора мне, гора! Ну, паганцы! Вы мне заплаціце за гэта!

Ён плюхнуў жонцы ў твар цэлы збан халоднай вады і, калі яна ачулася, крыкнуў:

– Ану, цягні хутчэй мае сямімільныя боты, я павінен дагнаць гэтых шалахвостаў!

Ён кінуўся ў пагоню, але яшчэ доўга папабегаў ва ўсе бакі, пакуль натрапіў на сцяжыну, па якой ішлі бедныя хлопцы. Яны былі ўсяго за сто крокаў ад сваёй хаты, калі ўбачылі, як людаед бяжыць за імі, пераскокваючы з гары на гару і пераступаючы цераз рэчкі так лёгка, быццам гэта маленькія ручаінкі. На шчасце, зусім побач Малое Пальчанё заўважыў у скале пячору і загадаў братам схавацца. Потым ён залез туды сам і пачаў цікаваць, што будзе рабіць людаед. А людаед, дужа стаміўшыся ад доўгае беганіны (бо той, хто носіць сямімільныя боты, вельмі ад іх стамляецца), захацеў адпачыць. Выпадкова ён сеў якраз на тую самую скалу, пад якой схаваліся хлопчыкі.

Людаед вельмі знямогся і, як толькі сеў, амаль адразу заснуў. Ён так страшэнна захроп, што бедныя хлопцы спалохаліся не менш чым учора, калі ён узяў нож і хацеў іх зарэзаць. Меней за ўсіх напалохаўся Малое Пальчанё. Ён сказаў братам, каб яны,

пакуль людаед моцна спіць, хуценька беглі дадому, а пра яго не турбаваліся. Яны паслухаліся яго і неўзабаве былі ўжо дома.

А Малое Пальчанё падкраўся да людаеда, ціхутка сцягнуў з яго боты і хуценька іх надзеў. Боты былі вельмі вялікія, з вельмі шырокімі халявамі. Але ж яны былі чарадзейныя, і таму маглі павялічвацца ці памяншацца залежна ад таго, хто іх надзяваў. І калі Малое Пальчанё нацягнуў іх сабе на ногі, яны зрабіліся яму ў самы раз, быццам былі на яго пашытыя. Тады ён пабег да людаедавай хаты і, убачыўшы людаедаву жонку, якая плакала над зарэзанымі дочкамі, сказаў:

– Ваш муж у страшнай небяспецы. Яго схапілі зладзеі, якія пакляліся, што заб'юць яго, калі ён не аддасць усё сваё срэбра і золата. Якраз калі яны падсунулі яму да горла нож, ён заўважыў мяне і папрасіў, каб я хутчэй бег да вас і расказаў пра ўсё, што з ім здарылася. Ён сказаў, каб вы аддалі мне ўсе каштоўнасці і каб нічога сабе не пакідалі, бо іначай яго заб'юць. Гэта трэба зрабіць як мага хутчэй. Таму ён і даў мне свае сямімільныя боты – каб я паспяшаўся і каб вы не падумалі, што я выдумляю.

Кабета вельмі напалохалася і адразу аддала Маламу Пальчаню ўсё, што ў яе было. Яна шкадавала людаеда, бо хоць ён і еў маленькіх дзетак, але муж быў вельмі добры. Так Малое Пальчанё завалодаў усімі людаедавымі багаццямі і вярнуўся дадому, дзе яго ўсе чакалі і сустрэлі з вялікай радасцю.

Зрэшты, шмат хто не пагаджаецца з такім канцом гэтай гісторыі. Кажуць, што Малое Пальчанё ніколі не абкрадаў людаеда і што напраўду ён толькі і зрабіў, што зняў з яго сямімільныя боты, якія абуваў потым, толькі каб паганяцца за малымі дзецьмі. Людзі запэўніваюць, што гэта вядома ім з надзейных крыніц і нават ад самога дрывасека, бо яны бывалі ў яго ў хаце, дзе іх частавалі пітвом ды рознымі стравамі. Яны пераконваюць, што, абуўшы людаедавы боты, Малое Пальчанё пайшоў да караля, бо той вельмі непакоіўся за лёс свайго войска, якое паслаў на бітву за дзвесце міль. Кажуць, нібыта ён паабяцаў каралю, што яшчэ завідна прынясе звесткі пра войска, калі на тое будзе каралеўская воля. Кароль вельмі ўзрадаваўся і сказаў, што, калі Малое Пальчанё зробіць гэта, яму заплацяць вялікія грошы. Таго ж вечара Малое Пальчанё прынёс каралю навіны з фронту, і гэты ўчынак прынёс яму такую вядомасць, што цяпер ён мог зарабляць, колькі хацеў: кароль шчодра плаціў яму за тое, што ён насіў загады ягоным войскам, а незлічоныя паненкі не скупіліся на падарункі, каб хутчэй атрымаць вестку ад сваіх каханкаў. І трэба сказаць, што ад жанчын яму даставалася асабліва багата.

Часам, бывала, і некаторыя жонкі прасілі яго занесці ліст мужу. Але плацілі яны за гэта такую дробязь, што за яе і купіць

нічога людскага не купіш. І таму Малое Пальчанё ўвогуле нават не лічыў гэта за заробак.

Працуючы пасланцам, Малое Пальчанё добра разбагацеў і, калі вяртаўся ў бацькаву хату, усе яму так радаваліся, што і сказаць немагчыма. Дзякуючы меншаму сыну ў сям'і нарэшце з'явіўся дастатак. Бацьку і братам Малое Пальчанё купіў неўзабаве тытулы ды чыны і добра ўладкаваў іх у жыцці. Дый на сябе Малое Пальчанё таксама не забыўся: ён знайшоў нявесту і, ажаніўшыся з ёю, пачаў жыць-пажываць дый гора не ведаў.

**Мараль**

Бадай, няма вялікага няшчасця,
Калі сыноў прыносіць жонка ў хату часта.
Каб толькі кожны быў прыгожы ды руплівы.
Але бяда, калі адзін – цяльпук:
Усе ўжо кпяць ды пазіраюць крыва...
А часам гэткі вось хлапчук
І робіць ўсю сям'ю шчаслівай.